**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 04 (877) 26 студзеня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**На дзень Хрышчэння Гасподняга, возера Бяглец.**
**Мужная дзяўчынка!**
19.01.2017 г.
*Фота Змітра Лупача.*



ISSN 2077-8023



Глыбоцкі раён

# І Вярхоўны, і раённы

■ Кастусь Александровіч

**У правінцыі апошнім часам рэдка ўзводзяцца сучасныя вытворчыя і адміністрацыйныя аб'екты, пераважаюць толькі жылыя дамы.** Тым прыемней было жыхарам Глыбокага даведацца, што сёлета напрыканцы года на вуліцы Яснай з'явіцца новы прыгожы будынак суда раёна. З гэтай нагоды тут днямі прайшла ўрачыстая цырымонія закладкі капсулы нашчадкам, бо аб'ект стане адпавядаць сучасным патрабаванням па пабудове прававой дзяржавы. Дарэчы, паралельна ў беларускай сталіцы па суседстве з Палацам Незалежнасці пачаліся работы па ўзвядзенні новага будынка Вярхоўнага суда Беларусі. Новы суд у Глыбокім паўстане, як абяцаюць спецыялісты падрадчыка, ААТ "Дарбудмантажтрэст", праз 9 месяцаў. Работы таму на будаўнічай пляцоўцы вядуцца цяпер без выхадных. Пляцоўкай для далейшай працы мясцовых судовых работнікаў выбралі пустыр паміж СШ № 3 і чыгуначным вакзалам. Новае памяшканне сюды выдатна ўпішацца і ўпрыгожыць гэты куток горада. У новым будынку плошчай амаль 1800 кв. метраў раённага суда будуць два паверхі, акрамя службовых пакояў прадугледжаны і дзве залы судовых пасяджэнняў, іншыя дапаможныя памяшканні. У ранейшым цесных пакойчыкаў пабудовы пачатку XX стагоддзя такіх зручных бытавых умоў не было, а архіў размяшчаўся ў падвальным памяшканні. Глыбачанам у пабудове важнейшага для судовай сістэмы аб'екта дапамагаюць іх калегі з цэнтральнага апарата Вярхоўнага суда, сюды пойдуць пазабюджэтныя крыніцы фінансавання. Акрамя суддзяў раёна з нецярпеннем чакаюць наваселля і тэхнічныя работнікі, бо для ўсіх наведвальнікаў установы зробяць належныя ўмовы ў адпаведнасці з сучаснымі стандартамі.

Докшыцкі раён

# Снег не заўсёды ў радасць

■ Станіслаў Раманчук.

**Ранейшыя снежныя і халодныя зімы памятаюць хіба што старэйшыя беларусы, а сёлета надвор'е даставіла шмат праблем, як гараджанам, так і вяскоўцам.**

Адчулі падобныя цяжкасці і жыхары Докшыцкага раёна, дзе і пасля папярэдніх снегападаў прыйшлося шмат папрацаваць па расчыстцы дарог да аддаленых вёсак. Аднак паблізу Бягомля ўсё ж сутыкнуліся на трасе адразу тры фуры, а сям'я з трох чалавек з райцэнтра загінула, калі паехала праведаць родных у суседні Пастаўскі раён. Шэраг дадатковых цяжкасцей прынёс пасля моцных халадоў у Бярэзінскі край і чарговы студзеньскі цыклон. На працягу трох дзён у раёне ішоў снег і тут, як і ў суседзяў, выпала каля двух дэкадных норм ападкаў. У выніку пасля такіх снежных выхадных у Докшыцкім раёне найбольш у вобласці, адразу 11 населеных пунктаў засталіся без падачы электраэнергіі. На шчасце, стыхія адступіла і аварыйным брыгадам удалося аператыўна ўхіліць пашкоджанні ЛЭП і вярнуць людзям свет. У адрозненне ад суседзяў, у раёне не адбылося пакуль вогненных трагедый з гібеллю людзей. Праўда, з пачатку года адзін пажар тут адбыўся і на праваслаўнае свята Раства Хрыстовага ў моцны мароз ноччу згарэла лазня ў вёсцы Осава. З павышанай нагрузкай працавалі падчас снегападу супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі па апрацоўцы найбольш небяспечных участкаў аўтадарог і вуліц населеных пунктаў, дзе існуе найбольшая рызыка ўзнікнення ДТЗ і наездаў на пешаходаў. Дарэчы, найбольш засыпала снегам у Прыдзвінні суседнюю Полачыну, дзе перавярнулася маршрутка з пасажырамі і сутыкнуўся з легкавушкай аўтобус па маршруце "Мінск-Полацк".

Дубровенскі раён

# Што ўбачу – украду

■ Чэслаў Якубовіч.

**Наступствы эканамічнага крызісу адчулі многія, а супрацоўнікі праваахоўных органаў заўважаюць павелічэнне дзёрзкіх крадзяжоў.**

Апошнім часам прадаўцы непакояцца, што часцей сталі красці ў гандлёвых цэнтрах, прама з гандлёвых паліц. Вяскоўцаў не ратуюць запоры і замкі, бо цягнуць жывёлін з хлявоў, розныя рэчы з гаражоў, дачных домікаў. А вось пенсіянерка са сталіцы будучых "Дажынак" райцэнтра Дуброўнаперажыласапраўдны шок вечарам, калі яна спала. Жанчыну разбудзіў нейкі грукат у пакоі, і яна праснулася. Як аказалася, гэта ўдарылася аб падлогу чыгунная батарэя ацяплення, якую паспеў зняць 38-гадовы знаёмы гаспадыні. Менавіта гэты нібыта сябар гараджанкі вырашыў, што метал ёй не патрэбны і на гэтай "аперацыі Ы" можна нядрэнна падзарабіць. Праўда, здароўе ў наваяўленага "металіста" было не багатырскім і ён папрасіў дапамагчы вывезці груз з хаты двух сваіх сябрукоў. Аднак у памяшканне злодзей прабраўся адзін, бо сюды часта заходзіў. Троіца ўжо стала загружаць першую партыю ўкрадзенага металу ў тачку, як на вуліцу выйшла жанчына і стала крычаць. Нічога не заставалася няпрошаным гасцям, як хуценька разбегчыся ў цемры. Аднак міліцыя аператыўна разабралася ў гэтай гісторыі, распачала крымінальную справу, бо кошт металу пацягнуў на 64 рублі і, магчыма, на 4 гады пазбаўлення волі для галоўнага фігуранта. Апошняга раней ужо адпраўлялі за краты за крадзяжы, аднак на шляхі выпраўлення ён так і не стаў. Яшчэ адзін малады жыхар райцэнтра ехаў п'яны і заснуў у машыне свайго сябры, патрапіў у ДТЗ. Калі з ім сталі разбірацца супрацоўнікі ДАІ, небарака спужаўся, што зноў быў затрыманы за рулём на падпітку і вырашыў уцячы на чужым аўто. За такую язду і ўгон машыны яму таксама пагражае пазбаўленне волі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 26.01.17 | | | | Пятніца 27.01.17 | | | | Субота 28.01.17 | | | | Нядзеля 29.01.17 | | | | Пан.30.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -9 | -9 | -5 | -1 | -2 | 0 | 0 | -1 | -1 | 0 | 0 | -1 | -1 | -3 | -2 | -5 | -5 | -5 | -5 |
| Ціск | 762 | 759 | 757 | 754 | 753 | 751 | 753 | 754 | 755 | 755 | 756 | 756 | 756 | 755 | 755 | 756 | 756 | 755 | 757 |
| Вецер м/сек | 1 Пд | 3 Пд-З | 6 Пд-З | 5 З | 5 Пн-З | 4 Пн-З | 2 Пн-З | 1 Пн-З | 0 ШТЛ | 1 Пн | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 4 Пд-У | 4 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 7 Пд |
| Вільготнасць | 82 | 90 | 90 | 92 | 90 | 93 | 90 | 94 | 95 | 95 | 91 | 95 | 92 | 90 | 81 | 86 | 88 | 88 | 81 |

Аб самым надзённым

# ДЭКРЭТ "АБ ПАПЯРЭДЖАННІ САЦЫЯЛЬНАГА ЎТРЫМАНСТВА" ВА ЎМОВАХ ЭКАНАМІЧНАГА КРЫЗІСУ ТОЛЬКІ РАЗДРАЖНЯЕ ГРАМАДСТВА, БО ЦЯЖКА СТАЛА З ПРАЦАЙ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Па вялікім рахунку, ніяк не хочуць у нас зразумець, што адсутнасць працы – гэта не віна, а вялікая жыццёвая драма канкрэтнага чалавека. З кожным годам узровень жыцця насельніцтва, на жаль, паступова зніжаецца ў нас.**

Самыя светлыя і радасныя калядныя, а таксама навагоднія святы праляцелі непрыкметна, а потым для суайчыннікаў насталі паўсядзённыя будні. Сёлета яны ўскладніліся яшчэ вельмі моцнымі маразамі, а ўслед за гэтымі дабавілі праблем людзям сур'ёзныя снегапады. Настрой дзясяткам тысяч беларусаў таксама не палепшылі ў пачатку года атрыманыя новыя "пісьмы шчасця" ад падатковых служб. Падобныя паведамленні інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах пачалі высылаць яшчэ ў мінулай восені патэнцыйным плацельшчыкам збору на фінансаванне дзяржрасходаў.

Аднак нешта ў адладжаным дзяржаўным механізме спрацавала не так. Хоць на той момант, да пачатку каляндарнай зімы было адпраўлена 70 тысяч пісьмаў "дармаедам", аднак яны ўнеслі ў дзяржбюджэт сціплую суму 2,5 млн. рублёў. З іншага боку столькі ўзнікла казусаў і памылак у адносінах тых, хто ў 2015 годзе не працаваў і ўдзельнічаў у фінансаванні дзяржрасходаў меней 183 дзён. Кожнаму з нас добра вядома, якая зараз у нашай краіне няпростая эканамічная сітуацыя, калі назіраецца спад вытворчасці, афіцыйна прызналі існаванне на вёсцы соцень гаспадарак-банкрутаў. Нават у вялікіх гарадах становіцца няпроста знайсці працу, а з людзей сталі патрабаваць за гэта яшчэ заплаціць грошы.

У выніку ў снежні прайшла адпаведная нарада ў Мінску па гэтым пытанні, аднак скандальны дакумент адмяняць не сталі. Прэзідэнт падпісаў новы дэкрэт, які пашырыў пералік тых, хто вызваляецца ад выплаты гэтага збору. З іншага боку беларусы, як вядома, даволі працалюбівыя людзі і многіх стала крыўдзіць, што іх прыраўнялі да зусім ужо апусціўшыхся п'яніц і іншых сапраўдных лайдакоў. Зараз тэрмін выплаты гэтага падатку перанеслі з 1 снежня 2016 года да 20 лютага сёлета, а пісьмы з падатковых інспекцый павінны былі закончыцца пасля ўдакладнення спісаў такіх асоб да 20 студзеня 2017 года.

Згодна з новай рэдакцыяй дэкрэта, мясцовым саветам дэпутатаў, альбо па іх даручэнні мясцовым выканаўчым і распарадчым органам далі права вызваляць асобных грамадзян ад такіх выплат, калі яны знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Не павінны плаціць гэты падатак спартсмены нацыянальных зборных, тыя, хто выбраў альтэрнатыўную службу, хто стаяў на ўліку беспрацоўных у цэнтрах занятасці і вучыўся па накіраванні бірж працы, знаходзіўся ў зняволенні, а таксама яшчэ шэраг катэгорый грамадзян. А вось многіх жанчын-маці сур'ёзна пакрыўдзілі, бо іх палічылі дармаедамі пры доглядзе дзяцей, калі малыя ходзяць у дзетсад.

Увогуле, як ні круці, але сур'ёзную праблему гэты нарматыўны акт па ўвядзенні фактычна прымусовай працы не вырашае і супярэчыць палажэнням Канстытуцыі Беларусі, міжнародным абавязацельствам, узятым нашай краінай. За што павінен плаціць канкрэтны чалавек, калі ён на працягу года ніводнага разу не хварэў, не звяртаўся за дапамогай да дзяржавы ў іншых жыццёвых сітуацыях? На справе час ідзе, а гэты дэкрэт выконваецца слаба. У сярэдзіне сёлетняй зімы так званыя "дармаеды" атрымалі 250 тысяч пісьмаў з патрабаваннямі заплаціць збор. З іх 24 тысячы ўнеслі грошы, дзяржава зарабіла крыху больш 5 млн. долараў, але ці пакрылі яны самі выдаткі на гэты адміністрацыйны працэс.

Спробы палепшыць гэты недасканалы і несвоечасовы дакумент былі і будуць марныя, а вось у грамадстве ўжо нарастае незадаволенасць. Адна з нямногіх апазіцыйных дэпутатаў парламента А. Канапацкая запатрабавала адмяніць дэкрэт. Беларускі незалежны прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці пачаў рыхтаваць агульнарэспубліканскую кампанію таксама за яго адмену. Жыццё многіх беларусаў цяпер зусім няпростае і ўразіла навіна, што з пачатку зімы замерзла насмерць, па дадзеных медыкаў, нават 47 чалавек. Сярод іх, напэўна, былі і патэнцыйныя "дармаеды". Засмучае, што сёння ў Еўропе Беларусь – адзіная краіна, дзе сталі прымяняць такія суровыя меры ў адносінах беспрацоўных. Нідзе болей на кантыненце, дарэчы, няма і смяротнай меры пакарання.

Па вялікім рахунку, ніяк не хочуць у нас зразумець, што адсутнасць працы – гэта не віна, а вялікая жыццёвая драма канкрэтнага чалавека. З кожным годам узровень жыцця насельніцтва, на жаль, паступова зніжаецца ў нас. Беларусы сталі праядаць нават валютныя запасы на "чорны" дзень, невыпадкова летась прадалі на 700 млн. долараў болей, чым купілі. Сапраўды, гэты дэкрэт " Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства" чакае нялёгкі лёс, калі яго не адменяць, бо ў Беларусі летась амаль на 100 тысяч чалавек звольнілі болей, чым прынялі на працу. Цяпер няпроста пачалі складвацца для нас узаемаадносіны з Расіяй і продаж айчынных тавараў на расійскім рынку. Сёння краіна ў складаным становішчы і тыя ж "дармаеды", колькі б іх ні ціснулі і не траслі, не дапамогуць выйсці з эканамічнай ямы.

## Дзень за днём

**Расія зноў скараціла пастаўкі нафты да 4 млн. тон у I-м квартале. Золатавалютныя рэзервы Беларусі летась выраслі на 751 млн. USD. Нацбанк знізіў стаўку рэфінансавання да 17 % гадавых. Толькі ў 37 раёнах краіны са 118 зарплаты перавысілі 300 долараў. Тарыфная стаўка першага разраду вырасла да 31 рубля. За 2 гады за сямейным капіталам звярнуліся амаль 30 тысяч беларускіх сем'яў. Спецпрадпрыемства Нацбанка ўтылізавала 10 вагонаў "старых" грошай. За суткі на пажарах загінула 10 беларусаў. У Беларусі змянілі правілы прыёму ў ВНУ і ССНУ і ўстанавілі бязвізавы ўезд для грамадзян 80 краін свету.**

## Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** У аэрапорце на ўсходзе краіны паліцыя затрымала былога прэм'ер-міністра Косава Р. Харадзіная па ордэру Сербіі, аднак яго раней апраўдалі і адпусцілі ў Славеніі.

**Расія.** У Крамлі недалюбліваюць А. Лукашэнка, як заявіў палітолаг В. Трухачоў, але сваіх людзей, здольных узяць уладу ў Мінску і ўтрымаць яе, у РФ няма і не хочаць там перамен.

**ЗША.** Сенатар-рэспубліканец Л. Грэм заявіў, што прэзідэнт Д. Трамп увядзе новыя санкцыі супраць Расіі з-за атак рускіх хакераў і іх спроб вывесці са строю энергасеткі.

**Германія.** На поўначы краіны адбылася буйнейшая за апошнія 10 гадоў паводка зімой, затапіла вуліцы і бары многіх гарадоў, машыны ў дварах, але людскіх ахвяр не было.

**Украіна.** Пасля ўстаноўкі новай ахоўнай аркі-саркафага над Чарнобыльскай АЭС, буйнейшай у сусветнай гісторыі, радыяцыйны фон вакол станцыі знізіўся ў 2 разы.

**Англія.** Журналіст-даследчык Шэнан Малоні выявіў, што прычынай крушэння "Тытаніка" стала не толькі сутыкненне лайнера з айсбергам, але і пажар на борце судна.

**Грэцыя.** Спецаддзел паліцыі затрымаў у Афінах 48-гадовую анархістку Полу Рупа, якая ў 2007 годзе абстраляла з гранатамёта пасольства ЗША, яе група рабавала таксама банкі.

**Расія.** Выкладчык МДІМА В. Салавей пацвердзіў, што ўлады РФ не могуць прапанаваць грамадству ніякай перспектывы, пачнецца палітычны крызіс з-за растучых праблем.

**ЗША.** Амерыканская фірма Kingston выпусціла самыя аб'ёмныя і надзейныя ў свеце флэш-карты з базай карты памяці 1 і 2 тэррабайт, з корпусам са сплаву цынка.

**Польшча.** Пасля сустрэчы з прэм'ер-міністрам Б. Шыдла дырэктар "Белсата" Агнешка Рамашэўская паведаміла, што далейшаму існаванню тэлеканала нічога не пагражае.

**Бангладэш.** У сталічным аэрапорце горада Дакка зноў затрымалі кантрабандыста, які спрабаваў перавязці з Малайзіі ў заднім праходзе 12 залатых зліткаў па 100 грам кожны.

**Англія.** Адзін з ахоўнікаў Букінгемскага палаца ледзь не застрэліў каралеву Елізавету II, калі ноччу яна не магла заснуць і выршыла прагуляцца па карыдорах памяшкання.

**Францыя.** Ва ўзросце 105 гадоў француз Рабер Маршан устанавіў сусветны рэкорд для пажылых людзей і праехаў за адну гадзіну на веласіпедзе па трэку 105 км.

**Польшча.** Экс-прэзідэнт Лех Валенса заявіў, што Беларусь павінна далучыцца да Еўропы з яе цывілізацыяй, бо Расія марудней развіваецца, спазняецца ментальна гадоў на 35.

**Швейцарыя.** На нарадзе ў ФІФА ў Цюрыху афіцыйна аб'явілі аб павелічэнні колькасці каманд-удзельніц чэмпіянату свету па футболе да 48 нацыянальных зборных.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Калі краіна не атрымае знешняй падтрымкі, як папярэдзіў эканаміст Л. Злотнікаў, то даходы насельніцтва могуць панізіцца на 15 % на працягу няпростага 2017 года.

**Барысаў.** Па заказу Міністэрства абароны Беларусі 140 ваенны рамонтнызаводправеўмадэрнізацыю бронетранспарцёра БТР-70 да больш грознага ўзроўню БТР-70МБ1.

**Мінск.** Начальнік упраўлення геалогіі Міністэрства прыродных рэсурсаў С. Мамчык пацвердзіў, што ў распрацоўцы знаходзіцца 59 радовішчаў з запасамі 50 млн. тон нафты.

**Жодзіна.** Работнікаў БелАЗа парадавала, што пакет заказаў на іх грузавікі сфарміраваўся да ліпеня, украінскі алігарх Р. Ахметаў выдзеліў 18 млн. $ на пакупку 14 машын завода.

**Мінск.** Будаўніцтва на месцы былога аўтавакзала "Маскоўскі" хмарачоса "Газпрама" спынілі з-за выяўленых дэфектаў падмурка і нетрывалых грунтоў для такога будынка.

**Смалявічы.** Адзін з супрацоўнікаў Барысаўскага РУУС вечарам на дарозе ля вёскі Крывая Бяроза збіў насмерць жанчыну, быў цвярозы і застаўся на месцы ДТЗ, пачалося следства.

**Мінск.** Эканаміст Я. Раманчук заявіў, што Беларусь не заплаціла за газ "Газпраму" 500 млн. $, страціла ў выніку 1,5 млрд. долараў з-за недапаставак Расіяй 6 млн. тон нафты.

**Салігорск.** Серыю інцыдэнтаў на "Беларуськаліі" папоўніў новы трагічны выпадак, у выніку абвалу глыбы пароды загінуў 52-гадовы шахцёр, летась там былі 4 смерці людзей.

**Жлобін.** Пакуль 24-гадовы хуліган адбываў суткі арышту, у яго двое жыхароў райцэнтра ўгналі легкавы аўтамабіль "Лада-Самара" і схавалі ў стозе сена вясковага пенсіянера.

**Мінск.** Медыяцэнтр буйнейшага ВНУ краіны – Белдзяржуніверсітэта стварыў свой сайт-фотаархіў з 20 тысяч фотаздымкаў, якія расказваюць аб розных перыядах яго дзейнасці.

**Дзяржынск.** Да 4-х гадоў турмы пагражае двум беспрацоўным 22-гадовым хлопцам, якія ў вёсцы Каследнікі сарвалі замок і скралі з хаты толькі 17 кніг коштам у 150 рублёў.

**Мінск.** Эканаміст Л. Злотнікаў заявіў, што беларусы сталі траціць палову сваіх даходаў на ежу, гэта – жахлівы паказчык, мы зараз – адна з бяднейшых краін Еўропы ў глыбокай яме.

**Калінкавічы.** Былы супрацоўнік Акадэміі кіравання паскардзіўся ў пракуратуру на актывіста АГП Д. Рабянка, пасля яго заяў былі арыштаваны аўтары агенцтва "Рэгнум".

**Мінск.** Экс-дырэктар Дэпартамента судзейства АБФФ А. Жукаў стаў 3-м па ліку за 4 месяцы буйным спорт-функцыянерам, хто атрымаў турэмны тэрмін за хабар і махінацыі.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** ААТ "Полацктранснафта Дружба" без згоды ФАС Расіі на 11,76 % павысіла тарыф на перакачку нафты па магістральным трубаправодзе Унеча-Адамава Застава.

**Рудакова.** На мясцовым цяплічным камбінаце вырасцілі першыя свежыя агуркі ўраджаю 2017 года гатунку "яніс" і адправілі на рэалізацыю ў магазіны абласнога цэнтра.

**Браслаў.** У мясцовым райаграсервісе пачалі праходзіць альтэрнатыўную службу два юнакі, на працягу трох гадоў яны будуць даіць на ферме кароў, а жыць у інтэрнаце.

**Орша.** Падчас моцных маразоў супрацоўнікі ДАІ аказалі дапамогу 65 вадзіцелям, у якіх замерзла салярка ў машынах, эвакуіравалі 40 пасажыраў аўтобуса Мінск-Масква.

**Шаркаўшчына.** У самым "бедным" раёне краіны рэальныя зарплаты ўпалі да 208 долараў, у гэты спіс 10 самых гаротных патрапілі таксама Міёрскі, Ушацкі і Сенненскі раёны.

**Ушачы.** Каля 7 гадзін раніцы на 28-м трасы на Мінск маршрутка з Полацка ўрэзалася на перавозімы на трале бульдозер, у выніку ДТЗ малады пасажыр з Наваполацка загінуў.

**Віцебск.** Абласны суд пакараў 35-гадовую жонку, якая хацела атруціць свайго мужа і завалодаць яго кватэрай, 9 з паловай гадамі турмы ў калоніі агульнага рэжыму.

**Орша.** Днём вадзіцель-пенсіянер на мікрааўтобусе ГАЗ з летняй гумай вылецеў на паркоўку і насмерць збіў 43-гадовага мужчыну, які ачышчаў сваю машыну ад снегу.

**Віцебск.** Архіепіскап Віцебскі і Аршанскі Дзімітрый пацвердзіў, што сёлета завяршыцца будаўніцтва новай царквы святой Матроны Маскоўскай у буйным мікраraёне Білёва.

**Паставы.** За кошт раённага бюджэту для Камайскай СШ набылі новы, трэці па ліку школьны аўтобус для перавозкі вучняў з аддаленых малых вёсак сельсавета.

**Глыбокае.** На працягу года ў раёне выявілі і аштрафавалі 56 чалавек за выраб самагону, 4 жыхары загінулі з-за атраўлення алкаголем і двапасля ўжывання шклоамывальніка.

**Гарадок.** Найхаладней у Беларусі зноў было ў гарпасёлку Езярышча, дзе марозы ўстанавілі новы рэкорд мінус 34,4 градусы, люты холад быў і ў Бярэзінскім заказніку.

**Полацк.** У бальніцу шпіталізавалі 58-гадовага вадзіцеля аўтобуса, які з'ехаў у кювет, калі кіроўцу раптам стала дрэнна і ён страціў прытомнасць, траўмы атрымалі 2 пасажыры.

**Віцебск**. Хоць людзі ўсё больш набываюць штучныя ёлкі, лясгасы вобласці прадалі да свят 28 тысяч жывых прыгажунь ( з іх 6 тыс. сосен), на 2,5 тысячы болей, чым летась.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсураў).*

## Ці патрэбны ў школе шосты вучэбны дзень?

**19 студзеня новы міністр адукацыі Ігар Карпенка падпісаў загад аб новых формах работы ў школе ў шосты школьны дзень. У гэты дзень, на думку Міністра, у школе павінны быць задзейнічаны ўсе педагогі, а не толькі псіхолаг і класны кіраўнік. Гэтыя новаўвядзенні шырока абмяркоўваліся ў сацыяльных сетках. Як вядома, пяцідзённы вучэбны тыдзень дзейнічае ў Беларусі з 2008 года. Мы пацікавіліся ў людзей, што яны думаюць наконт гэтых новаўвядзенняў.**



**Антон Тупека, Глыбокае:**

– Напэўна, пяцідзнеўка была б лепш. У мяне яшчэ дачка малая, але я не хачу, каб шасцідзёнка была. Як у нас было, калі я вучыўся. Трэба, каб дзеці больш адпачывалі, бо ў іх усё жыццё яшчэ наперадзе.



**Вітольд Ермалёнак, Мёры:**

Думаю, гэта нічога не зменіць. Гэта ж ужо было і раней такое, калі шэсць дзён вучыліся. Канечне, гэта некалькі зменшыць нагрузку на вучняў у тым плане, што ў адзін дзень будзе менш урокаў. Але ў цэлым я адмоўна стаўлюся да гэтых новаўвядзенняў, бо хочуць, напрыклад, павялічыць колькасць дзяцей у класах. А як навучыць аднаму настаўніку больш за трыццаць дзяцей? Вядома, усё робіцца, каб зэканоміць сродкі, але калі эканоміць на школах, потым прыйдзецца выдаткоўваць грошы на турмы.

**Валя Лупач, Глыбокае:**

– Я пра гэта яшчэ не чула, але не падтрымліваю. Дзеці ў нас і так церпяць ад двухзменкі ў школах. Вось што нам у Глыбокім трэба, дык гэта будаўніцтва новай школы. Бо цэлы мікраёна пабудаваны ў Глыбокім, а школы няма. Аўтобусы ў нас перагружаныя, а калі яшчэ ў суботу дзецям трэба будзе ў школу ездзіць, то як тады дабірацца, бо ў гэты дзень не ўсе аўтобусы ходзяць.





**Ганна Курцэвіч, Латыголь:**

– Я супраць. Я памятаю, як сама хадзіла ў школу, мы тады вучыліся ў суботу, і мне адной нядзелі для адпачынку было мала. Калі ў дарослых два выходныя дні, то чаму ў дзіцёнка павінен быць адзін? А сям'я ж хоча правесці вольны час разам, можа з'ездзіць куды, разам папрацаваць ці проста адпачыць усёй сям'ёй.

**Вольга Парфяновіч, Глыбокае:**

– Я супраць. Нагрузка ў дзяцей у дадзены момант і так вялікая, пакуль прыйдзе са школы, урокі зробіць, то часу вольнага амаль не застаецца. А шмат хто з дзяцей акрамя факультатываў мае нейкія гурткі, з рэпетытарамі займаецца або ў музычнай школе вучыцца. А гэта ўсё ж дзеці, ім і проста адпачыць, проста пабегаць хочацца.



**Таццяна Смоткіна, Глыбокае:**

– Я думаю, нічога асаблівага тут не зменіцца. На суботу ж пераносяцца толькі факультатывы і класныя гадзіны, звычайны шосты вучэбны дзень, як было, калі мы яшчэ вучыліся, не ўводзіцца. Таму я не чакаю тут вялікіх зменаў.

*Апытвалі Зміцер Лупач і Леанід Юрык*

■ Уладзімір Скрабатун

# Колькі гадоў існуе Глыбокае, столькі і глыбоцкаму суду

**На вуліцы Яснай – паміж вакзалам і СШ№3 - пачалося ўзвядзенне новага будынка суда Глыбоцкага раёна. Работы не спыняюцца і ў выходныя дні.**

**Скончаецца легенда вуліцы Савецкай! Яна ўжо больш не будзе пачынацца судом, але, усё яшчэ, будзе сканчацца вязніцай!**

## Колькі гадоў глыбоцкаму суду?

Спадарства, думаеце, што адказ вельмі просты – зараз спраўдзім даведнікі, Вікіпедыю, пачытаем раёнку і скажам – са студзеня 1940 года! Гэта значыць – 77 гадоў!

Не! Глыбоцкаму суду столькі гадоў, колькі і самому Глыбокаму!

Памятаеце, у 2012-м мы апублікавалі матэрыял Аляксандра Івашчонка “Першая глыбоцкая кніга”. І, як яна называлася? Нагадаю, ***“Казанне айца Язафата ад Найсвяцейшай Панны з Гары Кармель, на той час прыёра Кляштара Кармелітаў Босых у Глыбокім, падчас экзэквій[1] 13 верасня 1644 г. у Глыбоцкім касцёле годнай памяці Яго Мосці Аляксандра Тышкевіча, Полацкага[2] Земскага Суддзі”.*** *Вільня, друкарня езуітаў, год 1645.*

Імя суддзі вядомае – Аляксандр Тышкевіч. Скажам больш – жыў ён побач з цяперашнім касцёлам (на той час драўляным). Першую глыбоцкую кнігу, нагадаем, напісаў Язафат Тышкевіч[3], прэор Глыбоцкага кляштара кармелітаў босых.

Суд у Глыбокім існаваў з часоў Вялікага княства Літоўскага! Быў ён і за часамі Расейскай імперыі. А што ўжо казаць аб “польскіх часах”! Глыбокае атрымала не толькі статус горада, але і статус сталіцы павету, абшарам – ад Дзісны да Параф’янава! Як тры цяперашніх раёны! Без суда ніяк!

Не вядома, як там з юрыдычнага пункту гледжання, але з краязнаўчага – усе суды, што былі ў Глыбокім з часоў князя літоўскага Вітаўта Вялікага, караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя, расейскага імператара Мікалая ІІ, прэзідэнта ІІ Рэчы Паспалітай Ігнація Масціцкага, савецкіх генсекаў, як тое Мікіты Хрушчова, ці Леаніда Брэжнева – былі глыбоцкія. Аднак нам даводзяць, што глыбоцкі суд існуе са студзеня 1940-га. Чаму? Дзіўна! Атрымліваецца, дарэвалюцыйны глыбоцкі валасны суддзя як бы і не наш?



Так будзе выглядаць новы будынак суда Глыбоцкага раёна.

Толькі ўсё савецкае нам мусіць быць мілей і радней?

Сапраўды, карані беларускага суда, а з гэтым і суда Глыбоцкага раёна, выводзяць з такога лагічнага ланцужка: Кастрычніцкая рэвалюцыя – утварэнне БССР – ўваходжанне рэспублік у СССР – БССР у складзе СССР – незалежная Рэспубліка Беларусь. Мы адзіныя з краінаў – рэспублік былога СССР – перахоўваем тое, ад чаго адмовілася і сама сучасная Расія. У Расіі сёння выводзяць карані амаль усіх дзяржаўных інстытутаў ледзьве не ад Рурыкавічаў.

Як быць з гісторыяй! Перадусім, з мясцовай?

Напрыклад, з “польскім часам”? Тое ж самае нашае, што сёння, Глыбокае было! А некаторыя жыхары, якія ў тыя часы нарадзіліся, хоць і пасталелі, але і сёння ў добрым здароўі. Глыбокае і пры паляках – з 1921 года – насіла статус горада, але даведнікі цвердзяць – “Глыбокае – горад з 1940 г”. Не залічылі ў “працоўны стаж”! І “мэра” свайго мела! Мэр (бурмістар) жа Эдвард Кальбушэўскі злодзеем, аказваецца, быў! Скраў бюджэтных 2000 злотых і “інвеставаў” на рамонт уласнага жылля. Судзілі, два гады далі… Дзе размяшчаўся суд? Суд размяшчаўся ў будынку, што сёння па адрасе – вул. Леніна, 5.

## Калі ўзведзены сённяшні будынак суда?

Не памятаю дакладна, але, здаецца, гэта быў 1999-ы год. Да аўтара гэтых радкоў звярнуўся з пытаннем глыбоцкі суддзя Станіслаў Паўлавіч Трапук: *“Ці можна вызначыць час узвядзення сённяшняга будынка раённага суда?”*

– Гадоў 100, мабыць! – кажу. Будынка няма на здымках канца ХІХ ст, але ён ужо ёсць на выявах паштовак часоў Першай сусветнай вайны. У вайну яго, наўрад ці сталі б узводзіць. Будынак, імаверна, узвялі ў 1902-08 гг, калі праводзілася рэканструкцыя касцёла святой Тройцы. Паводле сведчанняў старажылаў – у 1930-я гг будынак належаў касцёлу.

*– У нас будынак суда – па паперах – лічыцца ўзведзеным у 1960-м годзе,–* кажа глыбоцкі суддзя. *– Насамрэч, аказваецца, суд месціцца ў 100-гадовым будынку! Добрая матывацыя нам прасіць “наверсе” аб неабходнасці ўзвядзення новага будынка суда.*

– Вось гэтая паштоўка, ілюстрацыя якой размешчана і ў маёй кнізе “Глыбокае на старых паштоўках”. На ёй напісана – *“Передвижение полка через м. Глубокое Виленской губ.”* Для Вас як юрыста ўжо не праблема доказаць “старажытнасць” будынка. Напісана ж – “… Виленской губ(ернии)». А губерні ў нас былі толькі пры цары, ваяводствы – пры паляках.

З таго часу прайшло больш за пятнаццаць гадоў, і, як бачым, жаданне супрацоўнікаў суда Глыбоцкага раёна, здзейснілася. Узвядзенне новага будынка суда пачалося!

Паводле пашпарта аб’екта праект распрацаваны Наваполацкім філіялам УП “Інстытут Віцебскграмадзянпраект”. Узводзіць будынак ААТ “Дарбудмантажтрэст”, Філіял Будаўніча-мантажны цягнік №169 на станцы Віцебск. Заказчык – Віцебскі абласны суд. Пачатак будаўніцтва – студзень 2017 г, сканчэнне будаўніцтва – верасень 2017 г.

## А як з Прывакзальнай плошчай?

На генплане будаўніцтва глыбоцкага чыгуначнага вакзала, тэрыторыя паміж вакзалам і СШ№3, была пазначаная як Прывакзальная плошча. Тады ў 1994-97 гг, гэтую задуму не рэалізавалі, бо ў той час, рэальна, быў развал і хаос. Сродкаў не хапала. Як будзе цяпер?

У любым горадзе вакзал – вароты ў горад. Праходзіш вароты – Прывакзальная плошча, як, напрыклад, у Полацку, Мінску, Віцебску, Маладзечне... І ўжо адразу ствараецца першае ўражанне аб горадзе – дадатнае альбо адмоўнае.

Хацелася б, каб і ў Глыбокім была прыгожая Прывакзальная плошча. Каб госці горада, турысты бачылі праз расчыненыя вароты прыгожы горад. Цягам васьмі месяцаў паўстане на ёй першы будынак – будынак суда Глыбоцкага раёна.



**Глыбокае. Паштоўка часоў Першай сусветнай вайны. Справа ад касцёла – сённяшні будынак суда Глыбоцкага раёна, які на тым часе належыў касцёлу.**



**Старадаўняя паштоўка. Глыбокае, вул. Замкавая. Справа дом, які існуе і сёння – вул. Леніна, 5 – у якім, у 1930-я гг размяшчаўся глыбоцкі суд і аптэка.**
**На бліжнім плане, справа – агароджа былога царкоўнага пляца, дзе напрыканцы XIX ст. былі магілкі і ўніяцкая (потым праваслаўная) царква. На месцы магілак – сёння рэстаран і ўніверсам “Родны кут”.**



Навабудоўля – 2017 – будынак суда Глыбоцкага раёна.

**Заўвагі і тлумачэнні:**

1. Экзэквіі – пахавальныя набажэнствы і абрады.
2. Мястэчка Глыбокае належыла да Полацкага ваяводства.
3. Менавіта з ім і здарыўся першы цуд у будслаўскім касцёле.

**ГОД 1617**

У Богу вялебны айцец Язафат Тышкевіч, які цяпер служыць у святой Кангрэгацыі Айцоў Босых Кармелітаў, калі было яму 5 гадоў, цяжка захварэў па волі Божай, аслеп на абодва вокі і цэлы год нічога не бачыў. Калі ж засмучаныя бацькі яго — яго міласць Павел Тышкевіч, троцкі суддзя земскі, і яе міласць пані Цэцылія Асмольская — з вялікай надзеяй і верай у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі прывялі Язафата ў Будслаўскі касцёл, то як толькі Язафат пераступіў парог касцёла, па ласцы Божай стаў бачыць і цяпер, як жывы сведка адбыўшагася тут цуду, застаўся ў кляштары і служэннем сваім дзякаваў Усемагутнаму Богу за такое цудоўнае аздараўленне.

# Парк Крыкалы

## Шмат чаго ў гэтых месцах звязана з “чартаўшчынай”



**Франц Хоміч,**
*краязнаўца, м. Дунілавічы.*

**Калі душа ваша патрабуе адчуванняў часоў мінулых, накшталт апісаных у “Чорным замку Альшанскім” Уладзіміра Караткевіча,то вам патрэбна менавіта сюды – у Крыкалы.**

Узнікненне гэтай цудоўнай мясціны адносяць да канца 18 – пачатку 19 стагоддзя.Тады, у маляўнічым месцы на сямі пагорках, пачалася закладка парку ландшафнага тыпу плошчай каля 15 га. Парк ствараўся вакол сядзібы тагачасных гаспадароў. Усходняй мяжой сядзібы з’уляецца рака Заражанка, паўднёва-заходняй часткай – дарога Дунілавічы-Варапаева.Уезд у сядзібу пачынаўся з гэтай самай, абсаджанай векавымі дрэвамі, дарогі. Злева ад уезду, на невялікім пагорку, стаяла капліца, невялікі малельны будынак. Крыху далей, справа ад дарогі, высока ў неба білі струмяні фантана. Масіўная, цалкам каменная ёмістасць ад гэтага фантана яшчэ зусім нядаўна была выкапана для гаспадарчых патрэб. Вакол фантана быў закладзены дэндралагічны сад са шматлікіх дрэў і кустоў з розных куткоў свету.

Упіралася дарога ў каменны палац, уваход у які ахоўвалі дзве скульптуры львоў. Перад пачаткам 1-й Сусветнай вайны палац пачалі перабудоўваць, але калі пачалася вайна, то работы былі прыпынены.У час вайны ён наогул быў спалены і больш не аднаўляўся.

Ад былой сядзібы застаўся свіран і два паўразбураныя гаспадарчыя будынкі. Гэтыя дзве пабудовы цікавыя сваёй архітэктурай – фасад каменны, а астатняя частка будынка драўляная, таксама ўражвае якасць каменных работ тагачасных майстроў. Да нядаўняга часу будынкамі карысталіся для гаспадарчых патрэб.

Побач з будынкамі – сістэма сажалак, якія зараз вельмі зараслі, але ў іх праглядаецца стройная водная сістэма, пры якой вада пастаянна замянялася.

У 50-х гадах мінулага стагоддзя тут быў створаны калгас “1-ае Мая”, потым размяшчалася база нарыхтоўчай канторы, зноў калгасная ферма, якая зараз не дзейнічае.

Дарога за былым палацам агінае ўзгорак і вядзе на поўнач. Справа ўзвышаецца пагорак, які называюць “Лысай гарой”. Гэта парослшая зараснікам ляшчыны гара з’уляецца самым высокім пунктам парку. Паданні сцвярджаюць, што на вяршыні гэтага ўзгорка ніколі не растуць дрэвы, паколькі там у поўнач збіраюцца чэрці і правяць “шабаш” (ігрышчы). З гары адкрываюцца маляўнічыя краявіды на мястэчка Дунілавічы і наваколле. Наступная знакавы пункт – “Чортаў камень”. Разам з “Лысай гарой” ён з’уляецца самым знакамітым месцам парку. Гэта вялікі камень з плоскай паверхняй, па форме крыху нагадвае сэрца. Раней на паверхні можна было разгледзець адбітак, нагадваючы след ступні, зараз ён амаль незаўважны. Побач з каменем добра прагледжваюцца рэшткі аднайменнага маста праз глыбокую расселіну. Існуе некалькі легенд аб гэтым месцы. Яны сцвярджаюць, што гэты мост быў сплецены з лазы, а мясцовы пан праязджаў па ім у брычцы на пары коней, бавіў час з чарцямі і гуляў з імі на камяні ў карты.





Як бачым, шмат чаго ў гэтых месцах звязана з “чартаўшчынай”. Сапраўды, у гэтых месцах чалавека агортвае незразумелая аўра таямнічасці, дыханне былых часоў. Здаецца вось-вось на зарослых сцяжынках з’явяцца постаці паненак у белых сукенках або праімчыць панская карэта. Калісьці на пасыпаных пяском сцяжынках, сярод дагледжаных дрэў, вiравала жыццё, а зараз застаўся подых тых падзей.

Насупраць Чортавага маста могілкі, дзясяткадругі пахаванняў. Гады нараджэння пахаваных – канец 18-пачатак 20 стагоддзяў. На жаль, усе пахаванні былі раскапаныя і разрабаваныя, але па ініцыятыве мясцовай улады і касцёла, з дапамогай мясцовага фундатара, могілкі аднаўлены і занава асвечаныя.

Тут перасячэм умоўную мяжу парку і агледзім рэшткі вадзянога млына на крыніцы. Застаецца толькі здзіўляцца разумнаму вядзенню гаспадаркі тагачаснымі ўладальнікамі сядзібы. На адной крыніцы створана водасховішча і пабудаваны невялікі вадзяны млын, які забяспечваў размол зерня для гаспадаркі.

Дно ручая, што цячэ з крыніцы, мае іржавы колер, магчыма, вада мае завышанае ўтрыманне нейкага элемента.

За крыніцай – лес, у якім не сустрэнеце ніводнай вужакі, кажуць да гэтага часу дзенічае замова пана.

Так выглядае цікавае ў многіх адносінах, але маловядомае месца Крыкалы.

Нядаўна на гэты парк звярнуў увагу старшыня МЭГА “Прырода і мы” Лысёнак А.К. Па яго ініцыятыве, на грошы фонду, было праведзена частковае добраўпарадкаванне парку і пракладзена экалагічная сцяжынка. Праз раку Заражанку перакінуты 15-метровы каваны мост, для бліжняй крыніцы выраблены і ўстаноўлены зруб і альтанка, на Лысай гары і ля маста абсталяваны месцы для заняткаў і адпачынку.

Расчышчана цэнтральная дарога, пракладзены сцяжыны да знакавых месцаў. На ўездзе размешчаны інфармацыйны стэнд, указальнікі.

Парк стаў прыгодным для наведвання школьнікамі і дарослымі.



Руіны старадаўніх пабудоў у парку Крыкалы.



Крыкалы. Лямус (пач. XIX ст.). Фота Ю. Клоса, 1930-я гг. Не захаваўся.

# Навукоўцы распавялі, як будзе выглядаць чалавек праз мільёны гадоў

Навукоўцы паспрабавалі спрагназаваць, як будуць выглядаць людзі на Зямлі праз мільёны гадоў. Вынікі працы навукоўцаў змясціла sundaynews.info. Праз гады эвалюцыі, як лічаць адмыслоўцы, рост людзей павялічыцца. Так, мужчыны будуць каля 2 метраў у вышыню. Акрамя таго, колер скуры людзей стане больш цёмным. Адбудзецца гэта з прычыны інтэнсіўнага змешвання розных рос. Таксама ў далёкай будучыні людзі будуць менш прыкладаць фізічных высілкаў для рашэння жыццёвых задач, даручыўшы фізічную працу робатам. Таму цягліцы скароцяцца, нормай стануць убудаваныя чыпы і гаджэты. Шырокае ўжыванне клавіятур і сэнсарных экранаў зробіць рукі і пальцы больш тонкімі і доўгімі. З-за таго, што ў шматлікіх людзей будзе сядзячы лад жыцця, доўгія моцныя ногі будуць не актуальныя для арганізма. А вось грудная клетка і лёгкія павялічацца, бо здабываць кісларод з атмасферы будзе ўсё цяжэй з-за забруджвання паветра.

*БелТА.*



**А.І.Гігола,**
*начальнік аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

# Некаторых грамадзян не спыняюць вялікія штрафы, якія накладаюцца судом

Супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС на сталай аснове арганізавана і праводзіцца праца па выяўленні парушэнняў антыалкагольнага заканадаўства. За дванаццаць месяцаў 2016 года за парушэнне арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь "Выраб ці набыццё моцных алкагольных напояў (самагонкі), паўфабрыкатаў для іх вырабу (брагі), захоўванне апаратаў для іх вырабу" і арт. 12.27 КоАП Рэспублікі Беларусь "Незаконныя перасоўванне, захоўванне тытунёвых вырабаў і алкагольных напояў, вытворчасць, перапрацоўка, захоўванне, перасоўванне нехарчовай спіртазмяшчальнай прадукцыі, этылавага спірту, тытунёвай сыравіны, рэалізацыя гэтай прадукцыі, спірту, сыравіны і алкагольных напояў" складзена 58 адміністрацыйных пратаколаў, з незаконнага звароту канфіскавана 1098.5 літраў фальсіфікаваных спіртных напояў самагонкі і самагоннай брагі і 18 самагонных апаратаў.

Найбольшая колькасць правапарушэнняў звязана з незаконным вырабам, захоўваннем і рэалізацыяй самагонкі і самагоннай брагі.

Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэнні за парушэнне: ч. 2 арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжана адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ў памеры да трыццаці базавых велічынь, ч. 3 арт. 12.43 КоАП Рэспублікі Беларусь – ад дзесяці да ста базавых велічынь. Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №5 ад 08.11.2016 года "Аб перасоўванні, захоўванні і продажу фізічнымі асобамі алкагольных напояў" узмацніў жорсткасць адміністрацыйнай адказнасці ў частцы продажу фізічнымі асобамі алкагольных напояў уласнага вырабу здзейсненага паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такое ж парушэнне, усталяваўшы адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь. Аднак некаторых грамадзян не спыняюць вялікія штрафы, якія накладаюцца судом. У 2016 годзе трое жыхароў нашага раёна двойчы на працягу года прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці за падобныя правапарушэнні.

Так, грамадзянка, якая пражывае на тэрыторыі Зябкаўскага сельсавета, за незаконны выраб самагонкі і самагоннай брагі, а таксама захоўванне па месцы жыхарства самагоннага апарата ў 2016 годзе была падвергнута адміністрацыйным спагнанням у выглядзе штрафаў у памеры 8 базавых велічынь.

Грамадзянін, які пражывае на тэрыторыі Абрубскага сельсавета, за незаконны выраб самагоннай брагі, а таксама захоўванне па месцы жыхарства самагоннага апарата ў 2015 - 2016 гадах быў падвергнуты адміністрацыйным спагнанням у выглядзе штрафаў у памеры 7 базавых велічынь, а грамадзянін, што пражывае на тэрыторыі Азярэцкага сельсавета, у 2015 - 2016 гадах быў падвергнуты адміністрацыйным спагнанням у выглядзе штрафу ў памеры 40 базавых велічынь.

Уканцы кастрычніка 2016 года жыхар Гродзенскай вобласці спрабаваў правезці па тэрыторыі нашага раёна ў аўтамашыне "Аўдзі" 345 літраў нехарчовай спіртазмяшчальнай вадкасці, аднак, быў затрыманы інспектарамі ДПС АДАІ Глыбоцкага РАУС. За дадзенае правапарушэнне пастановай суда Глыбоцкага раёна ён быў падвергнуты адміністрацыйнаму спагнанню ў выглядзе штрафу ў памеры пяцідзесяці базавых велічынь з канфіскацыяй 345 літраў нехарчовай спіртазмяшчальнай вадкасці.

Калі Вам штосьці вядома пра факты незаконнага вырабу і рэалізацыі алкагольнай прадукцыі – паведаміце на тэлефоны: АДС Глыбоцкага РАУС - 102, 2-27-02, 597 21 74 МТС; 314 89 02 Велком ці ААДС УУС Віцебскага аблвыканкама – ГТС (8-0212) 60-84-72.

**Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта паведамляе:**

# Скралі жаночы ровар

**У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа, узбуджаная 16.01.2017 па ч.1 арт.205 КК Рэспублікі Беларусь па факце крадзяжу жаночага ровара.**

**Інфармацыя аб злачынстве:**

**Перыяд часу, у які здзейснена** – З 20.00 гадзін 14.12.2016 года да 07:00 гадзін 15.12.2016 года.

**Месца здзяйснення злачынства:** Глыбоцкі раён, в.Азерцы, вул. Савецкая, 20/1.

Неўсталяваная асоба у перыяд часу з 20 гадзін 14.12.2016 да 7 гадзін 15.12.2016 шляхам вольнага доступу, таемна выкрала з незачыненай нежылой кватэры №1 дома №20 па вул.Савецкая ў в.Азерцы Глыбоцкага раёна дарожны ровар. З выкрадзеным схавалася і распарадзілася ім па сваім меркаванні.

17.12.2016 вышэйзгаданы ровар быў выяўлены ў непрыдатным памяшканні былой кацельні ГП "Азерцы".

Навочных сведкаў і асобаў, якім вядома асоба, якая выкрала жаночы ровар, прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г.Глыбокае, вул.Леніна, в.95, каб.№1, ці патэлефанаваць на нумар: 5-04-11.

Загадзя ўдзячны за супрацоўніцтва, з павагай,

**А.Д.Касцючэнка,**
*следчы СА Глыбоцкага РАСК.*

# У Верхнядзвінскім раёне польская фура ўрэзалася ў «Волгу»

ДТЗ адбылося 21 студзеня ў 10:10 ля вёскі Зялькі Верхнядзвінскагараёна: 46-гадовы кіроўца з Польшчы на закругленні дарогі не зладзіўся з кіраваннем і яго аўтамабіль «DAF» з рэфрыжэратарам занесла.

Фура склалася і выляцела на сустрэчную паласу руху, дзе ў яе ўрэзалася легкавушка «ГАЗ-3120». Кіроўца «Волгі» 41-гадовы жыхар Верхнядзвінска атрымаў траўмы, з машыны яго дасталі сведкі ДТЗ.

Пацярпелага кіроўцу даставілі ў Верхнядзвінскую цэнтральную раённую бальніцу, дзе ён у 14:00 памёр, паведамляе прэс-служба ДАІ.

*ННВ.*

## МНС інфармуе

**на 24.01.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 74;
Гібель людзей – 18, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 2;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

**СВ. Ешчанка,**
*начальнік крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

# СКМ "Нагляд": мэта і вынікі мерапрыемства

Барацьба са злачыннасцю – адна з самых актуальных і важных праблем нашага грамадства. У цяперашнім свеце гэта тэма стала вельмі надзённай, якая патрабуе максімальна падвышанай увагі. Таму ў Рэспубліцы Беларусь з кожным годам распрацоўваецца ўсё больш розных мер па барацьбе са злачыннасцю.

У Глыбоцкім раёне за мінулы 2016 год, назіраецца зніжэнне колькасці рэцыдыўных злачынстваў (з 78 да 56 злачынстваў). Прысутнічае дадатная дынаміка злачыннасці, аднак нягледзячы яе зніжэнне назіраецца рост злачынстваў, карыслівай скіраванасці.

У мэтах прадухілення дадзеных негатыўных момантаў на тэрыторыі Глыбоцкага раёна было праведзена спецыяльнае комплекснае мерапрыемства "Нагляд" (далей СКМ "Нагляд"), якое праходзіла з 17 па 25 студзеня 2017 года. Асноўнымі задачамі дадзенага мерапрыемства з'яўляліся ўзмацненне кантролю за паводзінамі і ладам жыцця асобаў, якія маюць асуджанасць, актывізацыя працы па выяўленні парушэнняў патрабаванняў прэвентыўнага нагляду, парадку і ўмоў адбывання пакарання, прыняцце мер па ўхіленні прычынаў і ўмоў, што спрыяюць здзяйсненню рэцыдыўных злачынстваў.

Адной з дзейсных мер па прафілактыцы рэцыдыўнай злачыннасці з'яўляецца ўсталяванне прэвентыўнага нагляду, які прызначаецца судом за асобамі, асуджанымі за здзяйсненне цяжкіх, асоба цяжкіх злачынстваў, ці асуджаных два і больш разоў да пазбаўлення волі за здзяйсненне наўмысных злачынстваў.

Прэвентыўны нагляд выражаецца ў неабходнасці выканання з боку паднагляднага вызначаных абмежаванняў, такіх як: забарона пакідаць абранае месца жыхарства ў вызначаны час сутак, часцей за ўсё з 22 гадзін 00 хвілін да 06 гадзін 00 хвілін наступнай раніцы; наведванне пэўных месцаў, у прыватнасці месцаў продажу спіртных напояў на разліў, масавых мерапрыемстваў; з'яўляцца ў РАУС для рэгістрацыі да 4 разоў у месяц і г.д.

За парушэнне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду прадугледжана адміністрацыйная і крымінальная адказнасць. Пакаранне паднагляднаму, які ўпершыню парушыў патрабаванні прэвентыўнага нагляду па арт.24.12 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжвае штраф памерам ад 6 да 10 базавых велічынь, а ў выпадку паўторнага парушэння санкцыя ўказанага артыкула прадугледжвае сабой штраф памерам ад 8 да 50 базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт. У выпадку далейшага незахавання паднаглядным патрабаванняў прэвентыўнага нагляду настае крымінальная адказнасць па арт. 421КК Рэспублікі Беларусь. Санкцыя дадзенага артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе арышту ці пазбаўленні волі на тэрмін да 1 года.

Падчас праведзенага СКМ усталявана 2 прэвентыўных нагляды, у адносінах грамадзян П. і Б., якія неаднаразова прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці. Выяўлена 6 парушэнняў патрабаванняў прэвентыўнага нагляду, за што складзена і разгледжана ў судзе Глыбоцкага раёна 5 адміністрацыйных пратаколаў па арт.24.12 КоАП Рэспублікі Беларусь, узбуджана крымінальная справа па арт. 421 КК Рэспублікі Беларусь у адносінах паднагляднага Л, які неаднаразова парушаў патрабаванне прэвентыўнага нагляду.

У перыяд правядзення СКМ "Нагляд" на тэрыторыі Глыбоцкага раёна рэцыдыўных злачынстваў асобамі, якія маюць не знятую і не згашаную асуджанасць не здзейснена, на тэрыторыі раёна дасягнуты пэўныя вынікі, што дадатна ўплываюць на аздараўленне крыміналагеннага становішча.

# Валанцёрская акцыя "Разграбём!"

На двары марозная і заснежаная зіма. Усе з нецярпеннем чакалі снегу, бо пакатацца з горкі, зляпіць снегавіка і пагуляць у снежкі – забаўкі, якія дастаўляюць дадатныя эмоцыі. Але ёсць гэтай парой і іншыя непрыемныя моманты, а дакладней – гэта ўборка снегу. Асабліва актуальная гэта праблема для пажылых грамадзян. Калі дарогі раённага цэнтра – гэта праца спецыялізаваных службаў, то ачыстка прыватных падворкаў – клопат домаўладальнікаў.

Састарэлыя грамадзяне, якія жывуць у прыватных дамах, не ў сілах прыбраць снег, збіць ледзяшы з даху, і ў гэтым выпадку на дапамогу прыходзяць неабыякавыя людзі. У іх ліку сталіся працаўнікі Глыбоцкага РАНС, члены Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі і Беларускай моладзевай грамадскай арганізацыі выратавальнікаў-пажарнікаў, клубаў юных выратавальнікаў-пажарнікаў. Яны размеркавалі паміж сабой адрасы пажылых людзей, якія пражываюць на тэрыторыі раёна і маюць патрэбу ў дапамозе. Маштабная праца па расчыстцы снегу і дапамозе старэйшаму пакаленню зладзіцца з непасільнымі для іх задачамі будзе праводзіцца ў зімовы перыяд падчас багатага выпадзення снегу. Аб'екты акцыі – шматдзетныя сем'і, ветэраны ВАВ, адзінокія пенсіянеры і інваліды.



*Глыбоцкі РАНС.*

# Глыбоцкі МКК плануе асвоіць вытворчасць сухой сыроваткі і хуткараствaральнага малака

**ААТ "Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат" мае намер нарасціць экспарт за кошт выпуску новых відаў прадукцыі, паведамілі карэспандэнту БелТА на прадпрыемстве.**

Камбінат плануе ў 2017 годзе інвеставаць у асноўны капітал Br13,6 млн. Асноўныя ўкладанні – рэалізацыя інвестыцыйнага праекта па будаўніцтве цэха, які будзе вырабляць сухую сыроватку і сухія малочныя прадукты. Агульны кошт праекта Br41,6 млн, гатоўнасць аб'екта без уліку тэхналагічнага абсталявання складае 81%.

"На ствараемай вытворчасці на адной тэхналагічнай лініі будуць выраблiцца два прадукты з высокім экспартным патэнцыялам: сыроватка сухая дэмінералізаваная (да 90%) і сухое хуткараствaральнае лецытынізаванае малако. Таксама плануецца асвоіць вытворчасць інавацыйнага прадукта – кармавога лактулозаўтрымоўваючага дадатку прэбіятычнага дзеяння на аснове малочнай сыроваткі для маладняка сельскагаспадарчых жывёл. Прадукт завецца "Лактумін", – растлумачылі на камбінаце.

На прадпрыемстве падкрэслілі, што новы цэх дазволіць павялічыць выручку ад рэалізацыі на 18%, у тым ліку экспартную – на 34%. Чакаецца, што рэнтабельнасць рэалізацыі прадукцыі перавысіць 27%, дададзены кошт на аднаго працаўніка, занятага на створанай вытворчасці, складзе Br85 тыс.

Па выніках працы за 2016 год на прадпрыемстве тэмп росту аб'ёмаў выпуску прамысловай прадукцыі ў дзейсных коштах склаў амаль 130%. Рэнтабельнасць продажаў склала 14,3%. За мінулы год экспартавана прадукцыі на $34 млн. Асноўным замежнаэканамічным партнёрам камбіната з'яўляецца Расія (88% ад агульнага аб'ёму паставак). Акрамя таго, ідуць адгрузкі ў краіны СНД (Арменія, Азербайджан, Казахстан, Кыргызстан, Малдова, Туркменістан, Украіна) і далёкага замежжа (ЗША, Ізраіль, Літва, ААЭ).

Асноўным відам эканамічнай дзейнасці Глыбоцкага МКК з'яўляецца перапрацоўка малака, вытворчасць малочных кансерваў, сыроў і рыбных кансерваў (філіял "Браслаўрыба"). Прадпрыемства выпускае больш 80 відаў малочнай і 10 відаў рыбнай прадукцыі. У склад ААТ уваходзіць Браслаўскі філіял, які спецыялізуецца на выпуску цвёрдых сыроў, філіял "Браслаўрыба", што выпускае рыбныя кансервы, а таксама сельскагаспадарчы вытворчы філіял "Мнюта".

*Алена Ціханава - БелТА.*

# Вострыя рэспіраторныя інфекцыі, як заўсёды, пачынаюцца ў канцы студзеня

■ **Людміла Козел,**
*заг. аддзелам эпідэміялогіі Глыбоцкага РЦГЭ.*

**Грып і вострыя рэспіраторныя інфекцыі (далей ВРІ) працягваюць заставацца самымі масавымі інфекцыйнымі захворваннямі. Грып з'яўляецца адзінай інфекцыяй, якая выклікае штогадовыя эпідэміі і перыядычныя пандэміі.**

У Рэспубліцы Беларусь штогод захворваюць грыпам і ВРІ каля 3 млн. чалавек. У Глыбоцкім раёне штогод захворвае звыш 6 тысяч чалавек вострымі рэспіраторнымі інфекцыямі, больш за 50% сярод захварэлых складаюць дзеці да 8 гадоў.

У Рэспубліцы Беларусь створана сістэма мерапрыемстваў, якія прадугледжваюць комплексную абарону насельніцтва ад грыпу. Комплексны характар абароны насельніцтва ад грыпу мяркуе, у першую чаргу, спецыфічную прафілактыку з выкарыстаннем вакцын, прафілактыку з выкарыстаннем лекавых прэпаратаў, праведзенне супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў у ачагах інфекцыі, а таксама праведзенне аздараўленчых і агульнаўмацавальных мерапрыемстваў.

Найболей эфектыўным і эканамічным метадам прафілактыкі грыпу з'яўляецца вакцынацыя. Яе перавагі відавочныя: першым чынам, гэта строга спецыфічнасць вакцын да найболей актуальных у сезоне штамаў віруса грыпу; вакцынацыя больш за два разы перавышае эфектыўнасць неспецыфічных сродкаў прафілактыкі. Сучасныя вакцыны абараняюць не толькі супраць грыпу, але і павялічваюць супраціўляльнасць арганізма да іншых вострых рэспіраторных інфекцый. Уздым захворвання грыпам і ВРІ ўжо шмат гадоў запар пачынаецца ў канцы студзеня, у сувязі з гэтым найболей аптымальны тэрмін правядзення вакцынацыі – з другой паловы верасня да пачатку снежня. Праз 14-21 дзён пасля вакцынацыі развіваецца імунітэт, які забяспечвае абарону арганізма на працягу 6 - 12 месяцаў.

У Глыбоцкім раёне, з мэтай папярэджання захворвання грыпам, з верасня па лістапад 2016 года была праведзена кампанія па вакцынацыі насельніцтва супраць грыпу. Усяго прышчэплена 15 199 чалавек (з іх дзяцей – 2845), што складае 40,30% насельніцтва раёна, з іх за кошт рэспубліканскага бюджэту прышчэплена 4910 чалавек, абласнога бюджэту – 7 252 чалавек, фінансавых сродкаў прадпрыемстваў і арганізацый – 3 017 чалавек, асабістых сродкаў грамадзян – 20.

Для таго, каб папярэдзіць захворванні грыпам і ВРІ неабходна выконваць наступныя рэкамендацыі:

- Уключайце ў свой рацыён вітаміны, асабліва вітамін С, садавіна і гародніна, лук, часнак, мёд.
- Выконвайце рэжым працы і адпачынку. Больш бывайце на свежым паветры, замест перапоўненага грамадскага транспарту на працу і з працы хадзіце пешшу, апранайцеся па надвор'і.
- Пазбягайце блізкага кантакту з хворымі людзьмі.
- Выконвайце гігіену рук. Рэгулярна мыйце іх з мылам, імкніцеся не датыкацца рукамі да рота, носа, вачэй.

У перыяд захворвання:

- Як мага радзей наведвайце шматлюдныя месцы (рынкі, крамы).
- Рэгулярна ветрыце памяшканні і праводзьце ў іх вільготную ўборку.
- Пры наяўнасці хворага ў сям'і важна прытрымвацца наступных правілаў: вылучыць для хворага асобны пакой, калі гэта зрабіць немагчыма, то неабходна адгарадзіць ложак хворага фіранкай ці шырмай, вылучыць яму асобны посуд, ручнік, часцей праводзіць вільготную ўборку і ветранне пакоя, у якой знаходзіцца хворы, пры доглядзе за ім выкарыстоўваць маскі.

Калі Вы захварэлі, то не пераносце інфекцыю "на нагах" і не займайцеся самалячэннем, а звярніцеся да лекара. Прыслухайцеся да рэкамендацый і бывайце здаровы!





# Беларуска-расійская мяжа перастане быць празрыстай

Беларуска-расійскія супярэчнасці вакол рэжыму перасячэння мяжы паміж дзвюма краінамі грамадзянамі трэціх дзяржаў толькі апасродкавана звязана з нязгодлівасцю Мінска адносна ўводзінаў адзінай візавай прасторы з Расіяй.

*Расійскае кіраўніцтва, скарыстаўшыся эканамічным крызісам у Беларусі, імкнецца дамагчыся ад афіцыйнага Мінска максімальных саступак у сваю карысць. Беларускія ўлады ў наш час не маюць намер ісці на саступкі Расіі. Крэмль жа дэманструе гатоўнасць да далейшага паглыблення двухбаковых супярэчнасцяў, у тым ліку і ў сферы памежнай палітыкі.*

Са жніўня 2016 года Расія дэ-факта выйшла з рэжыму свабоды перасоўвання праз мяжу з Беларуссю. Прычым, зроблена гэта было ў аднабаковым парадку, без папярэдняга ўзгаднення падобнага кроку з беларускім бокам. Больш таго, расійскі бок паэтапна ўзмацняе жорсткасць рэжыму кантролю на беларуска-расійскай мяжы. Так, з нядаўняга часу і без дадатковых апавяшчэнняў абмежавана перасоўванне праз мяжу і ўладальнікаў дыпламатычных пашпартоў.

Дадзеныя дзеянні Масквы з'яўляюцца часткай шырэйшых беларуска-расійскіх супярэчнасцяў. Сітуацыя на мяжы можа быць урэгулявана толькі ў рамках агульнай нармалізацыі адносін паміж Беларуссю і Расіяй. Гэта ў роўнай ступені датычыць сферы палітыкі, эканомікі і бяспекі. Відавочна, што ў Крамлі чакаюць ад Мінска, як больш слабога боку, саступак на грані капітуляцыі. Што з'яўляецца прынамсі заўчасным. Цвёрдасць пазіцый беларускіх уладаў будзе падштурхоўваць расійскае кіраўніцтва да далейшага абвастрэння двухбаковых адносін, вынікам чаго можа стаць дэмантаж аднаго з найболей важных ідэалагічных знакаў беларуска-расійскай інтэграцыі 90-х гадоў – адкрытасці мяжы паміж дзвюма краінамі. Варта адзначыць, што ініцыятарам гэтага дэмантажу стане Расія.

*Вынікам беларуска-расійскіх супярэчнасцяў становіцца перспектыва вяртання паўнавартаснага памежнага кантролю паміж дзвюма краінамі. З моманту выхаду расійскіх памежнікаў на ахову зялёнай мяжы паміж дзвюма краінамі ў беларускіх уладаў не будзе іншага выбару, акрамя як прыступіць да разгортвання памежнай інфраструктуры на ўсходняй мяжы, што ў сваю чаргу дасць Маскве нагоду абвінаваціць афіцыйны Мінск у падрыве асноў двухбаковай інтэграцыі і стане базай новых супярэчнасцяў паміж Беларуссю і Расіяй.*

**Крыніца:** Belarus in Focus Information Office.

# Пакуль толькі кожны 12-ы атрымальнік «лістоў шчасця» выплаціў падатак на дармаедства

**Паводле апошніх звестак, падатковыя органы накіравалі больш за 440 тысяч паведамленняў грамадзянам на выплату збору на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў. Аб гэтым паведамляецца на сайце МПЗ.**

Праўда, колькасць тых, хто паспяшаўся разлічыцца з казной, не такая вялікая. Так званы падатак на дармаедства заплацілі 34,4 тысячы атрымальнікаў «лісты шчасця». Атрымліваецца, што кожны 12-ы вырашыў не даказваць сваё права не плаціць падатак.

Усяго бюджэт атрымаў ад дармаедаў 10,2 мільёна рублёў (або крыху больш за 5 мільёнаў даляраў). Аднак дадзеныя па колькасці плацельшчыкаў могуць змяніцца: па законе сёлета ўнесці падатак трэба не пазней за 20 лютага.

— Пры атрыманні паведамлення на выплату збору грамадзянін мае права падаць у падатковы орган дакументы і (або) тлумачэнні, якія сведчаць аб адсутнасці ў яго абавязку па выплаце збору, — нагадваюць у МПЗ. Там таксама ўдакладняюць, што праінфармаваць падатковы орган пра сваё права на вызваленне ад выплаты збору можна пры асабістым звароце ў інспекцыю альбо шляхам накіравання ў інспекцыю тлумачэнняў і (або) дакументаў у электронным выглядзе.

Цяпер плацяць падатак беларусы, якія не працавалі больш за 183 дні ў 2015 годзе. Рассылка паведамленняў за гэты перыяд павінна была скончыцца 20 студзеня.

*Паводле finance.tut.by*

# Прыватныя Абвесткі









## Аўтамабілі на продаж:

Аўдзі-80 «бочка», 1.8 бензін, 1991 г/в. Тэл. 8-029-262-07-11

Аўдзі-80 В4, 1994г.в., 2,0і, эл\люк, шклопадымальнікі, добры стан,торг.Т.: 613-47-29

ВАЗ- 21013, 500руб. Т.: 8-029-895-58-39(мтс)

Опель-Амега, бардовы ўніверсал, Г\Б, новая зімовая гума, салон велюр, л\д, шклопадымальнікі, 4300руб. Т.: 8-029-714-44-99***

Опель-Астра-F, 1997 г.в., у добрым стане, 1.6 бензін, сіні хэтчбэк, 5 дзвярэй, новая падвеска, тармазы, масла, фільтры, зімовая гума, кузаў без іржы, 3000 б.р. Тэл. 8-029 719-20-93

ФВ-Пасат В3, 1991г.в.,1,9Д, універсал, 10 млн. руб., без торга. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Форд-Сіера, 1992г.в., 1,8 мона, хэтчбэк, чырвоная, у выдатным стане.1200руб. Т:8-029-249-31-59(мтс), 8-029-813-99-99(мтс)+

Форд-Галаксі, 1995 г/в, 2.0 бензін, л\дыскі, зімовая гума, знята з уліку, добры стан, 6.000 руб. Тэл. 8-033-681-79-89

Сітраен-Ксантыя, 1999г.в., рэйстайлінг, універсал, 2,1ТДі, ёсць усё, фаркоп, добры стан, торг. Т.: 8-033-387-61-32(мтс)

Фіат-Брава, 2009г.в.,1,4Б, чорны, таніраваны, ідэальны стан,125 млн. руб. Т:8-029-892-87-21(мтс)+

Мікрааўтобус Мэрсэдэс МВ-100, 1995г.в., грузавы, высокі, максі-база, пераварaны, 23 млн. руб., або абмен на л\а або трактар. Т:8029-286-65-32(мтс)+

Сузукі-Балена, 1,6Б, 2000г.в., срэбны ўніверсал, кандыцыянер, г\у, поўны эл\пакет, велюр, ПБ, выдатны стан, зімовая гума, нядорага. Т.: 897-23-02(мтс)

ГАЗ-66, 1987г.в., бартавы, Б. Т.: 8-029-387-14-04(в)

УАЗ-Хантэр, 2008г.в., Б, інж, чорны, у добрым стане. Т.: 516-91-58(мтс)

## Куплю машыны, трактары, прычэпы, матацыклы:

**Іншамарку ў любым стане, з любымі праблемамі. Дорага. УНН 223800390881. Т: 8029-210-31-82 (мтс), 8029-641-88-36(в)+**

Куплю трактар у добрым стане Т-25 або МТЗ-80-82, да яго куплю прычэп, касілку, бульбакапалку, плуг, культыватар і інш. Т.: 8029-120-82-52(в)+

Куплю а/м (іншамарку) у любым стане з праблемамі ці без, можна аварыйны, забяру сам. Тэл. 8-029 534-48-19, 8-029 907-04-13

Куплю іншамарку. Тэл. 8-033 629-36-92

Трактар Т-25 у добрым стане, з навясным і дакументамі, нядорага. Т.: 213-46-32(мтс)

Опель-Астру, універсал, 1995-2000г.в., Вектру, у добрым стане. Для сябе. Т.: 590-17-12(мтс)

## Прадам трактары, прычэпы, матацыклы, лодкі, веласіпеды:

Скутар «HORS 051», 2014 г.в.,чырвоны, 770 р. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

Пагрузчык-экскаватар, 2007г.в., выдатны стан, 3500 мотагадзін. Т.: 8-029-714-44-99***

Т-16 з дакументамі. Т.: 678-24-22(мтс)

## Прадам запчасткі:

Да Аўдзі-80, А4, А6, В4, С4, С5, С6; Кіа-Кларус, Шума, Сэпхія;Нісан-Прэм'ера Р10, 11,12, Альмера, Мікра, Х-Трэйя Т-31;Опель-ВектраВ,Амега В,АстраG,F,Зафіра, Франтэра В, Корса; ФВ-Гольф-ІІ, ІІІ, IV, Джэта-2, 5, Пасат В 3,4,5,6, Т-4; Пежо-106, 206, 307,405, 406, 605, 607, 806; Мазда-626,2,6; Форд-Мандэа 1,3,Транзіт, Фокус, Гэлаксі, Ф'южан, С-Махс; Рэно-19, Меган,-Кліа,Лагуна1,2,Сцэнік,-Эспайс, Сандэра, Маскат, Логан; Таёта-Карола,Ярыс;Вольва-440,460,ВольваV40; S40, XC70; Дэо-Нубіра, Леганза, Маціз; Мерседэс-W 201,W202, 203, W210; Сітраен-Сакса, ZX, Эвазіон, Ксара, С3 Пікасо; Сеат-Таледа,Ібіца,Кардоба; Міцубісі-Ландэр, Галант, Міцубісі ASX; Фіат-Пунта 1, 2,3,Марэа; Крайслер-Неон. Ваяджэр; Хундай-Поні, Лантра; Шэўрале-Нубіра, 2006 г.в: Ровер-214, 216, 1993г.в.Асартымент запчастак пастаянна змяняецца і павялічваецца мадэльны шэраг аўтамабіляў. Т.: 292-99-33(мтс), 338-71-83 (в), 8-029-210-31-82 (мтс) *Ліц. №22380\0037920 ад 23.03.2004г.выд.Паляцкім РВКда18.05.2013г. ІПФіліпсон С.І.УНП223800390881*+

Да Мэрсэдэс МВ 100: каробка перадач, стартар, генератар, куліса. Больш нічога няма. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Сігналізацыю. Т.: 249-31-59+

**Аўтазапчасткі ў г. Глыбокае**. Магазін «Бегемот», вул. Леніна, 87. Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў, АКБ, маслы, кузаўныя запчасткі, шыны. Аўтакрэслы дзіцячыя. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391053348, пасв. № 391053348 ад 19.06. 2009 г. Тэл. гарачай лініі: 8029-712-93-34(мтс)+

**Аўтаразборка**.Запчасткі б\у з Еўропы да л\а і мікрааўтобусаў. Пастаяннае папаўненне. Бясплатная дастаўка з Мінска да Вас дамоў. УНП391533885. Т.: 8-033-677-07-96 (мтс), 8029-393-67-44

Ланцугі супраць слізгання. Т.: +37529-570-75-48

Гуму зімовую Colt, Lancer 155\80\R13. +37529-570-75-48

ВАЗ-2106 з дакументамі, на запчасткі цалкам. Т.: 678-24-22(мтс)

Л\д ад БМВ R16, у вельмі добрым стне, падыходзяць на Е39, Е:60, Е92, Е46, Е36 і іншыя. Нядорага. Т.: 8-033-365-09-00

Запчаткі на БМВ Е46. Т.: 8-033-365-09-00

Гуму лета, 10-15% зносу, 255\35\ R18, пару. Т:8033-365-09-00

Пярэднюю падвеску ў зборы, у добрым стане, ад БМВ Е39, заднія пружыны новыя, нядорага. Т.: 8-033-365-09-00

**Аўтазапчасткі «Баварыя»**, г. Глыбокае, у наяўнасці і пад заказ, для л\а і мікрааўтобусаў, АКБ, масла, кузаўныя запчасткі. Пры пакупцы масла замена бясплатна. УЕП391059864. Т.: 8-029-219-05-05****

Аўтападымальнік 4-стоечны, б\у, спраўны, 800руб. Прыбор СКО-1м (развал-схаджэнне), б\у, спраўны, 200руб. Т.: 8-033-645-04-54 (Глыбокае)

## Куплю запчасткі:

Запчасткі для польскай капалкі. Т.: 8-029-342-83-79(мтс)

## Прадам нерухомасць:

Дом у в. Пашкі, Шаркоўшчынскі р-н, на беразе ракі Дзісна,770-.руб. (7700000руб) Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Дом у в. Станіслава, Шаркоўшчынскі р-н, з дакументамі, 1100руб (11000000 руб). Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Дом у в. Давыдкі (ля Галубіч), побач лес, рака, возера, з дакументамі, 1100руб. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Дом недабудаваны ў Глыбокім, вул. Сонечная, 8. Т: 8033-659-48-91(мтс)+

Кватэру 3-пакаёвую па вул. Міра, у панэльным доме, пакоі ўсе асобныя, санвузел асобны, з рамонтам, аг.пл. 59 $м^2$, 3-і паверх, кошт пасля агляду кватэры. Т.: 216-80-93 (мтс), 294-67-96(мтс)**

Кватэру 4-пакаёвую ў Глыбокім, з усімі выгодамі, з добрым рамонтам, аг.пл.100$м^2$, 2-і паверх, 78тысяч руб. Т.: 8-029-714-44-65

Кватэру 2-пакаёвую, вул. Маскоўская, без выгод. Т.:8029-103-00-50(в)

Кватэру 3-пакаёвую ў Глыбокім, р-н МКК, вялікі гараж на 2 машыны з кладавой - у падарунак. Т.: 8-029-763-51-97 (мтс)

Кватэру 3-пакаёвую, 2-і паверх, 60$м^2$, добры рамонт, ламінат, штучны камень, экашклопакеты, новыя дзверы, сухая і вельмі цёплая, сонечная + гараж (з ямай) + вялікі панадворак (ёсць магчымасць для дадатковых пабудоў). Г. Докшыцы. Т.: 8-044-569-23-38,тэлефон па вайберу: +7(911)381-09-63 (Тацціяна), 8-029-813-64-23

Кватэру 1-пакаёвую з перапланіроўкай, 40$м^2$, поўны еўрарамонт (камень, плітка, ламінат, вадкія шпалеры і г.д.), 2010г.п., р-н Беразвечча, возера, паліклініка, садзік, магазіны. Т.: +375-29-713-74-34, +375-29-214-34-55*

Кватэру 2-пакаёвую ў Глыбокім, вул. Савецкая, 244. Т.: 8-029-597-04-88

Кватэру 2-пакаёвую ў в. Петрунова, д.2, кв.5, 38$м^2$, добры рамонт. Т.: +37529-598-77-22 ***

Дом, 1974г.п., 64$м^2$, г. Глыбокае, вул. Зарэчная, 13, вадаправод, лазня, хлеў, гараж, побач газаправод. Т.: 8-029-590-32-26 (мтс)***

Дом 1-павярховы, 120$м^2$, поўны еўрарамонт, падагрэў падлогі, газ, вада, каналізацыя. Лазня 6х6м + гараж 9х6м, агароджа па ўсяму перыметру металапрофіль. Кошт па дамове. Т.: 8-029-714-44-99***

Кватэру 3-пакаёвую ў Докшыцах, вул. К.Маркса, 2-і паверх, добры рамонт, убудаваная мэбля + гараж. Торг пры аглядзе. Т.: +37529-127-77-02

Кватэру 2-пакаёвую ў в. Шунеўцы. Т.: 5-26-39, 717-65-99(мтс)

Дом з мэбляй у в. Грабучае, Докшыцкі р-н, возера 3км. Т.: 678-24-22(мтс)

Кватэру 3-пакаёвую ў р-не МКК. Т.: 8-029-716-52-38****

Кватэру 1-пакаёвую па вул. Маладзёжнай, 6, Глыбокае, 1-ы паверх, еўрарамонт, 40000.руб., торг. Т.: 8-033-600-60-73**

Дом у в. Лужкі, 32, Удзелаўскі с\с, участак 0,25га, з усімі дакументамі, 1200руб. Т.: 519-79-42

Дом у Глыбокім, склеп, гаспабудовы, гараж, лазня, газ, вада, кошт па дамове. Т.: 519-79-42

Дом у Глыбокім, вул. Калініна, 12. Т.: 8-029-512-75-64 (мтс)**

1-пакаёвую кватэру (новабудоўля, 40.8 кв/м, 4 паверх), гатовая да пражывання. Тэл. 8-029-561-46-55

Дом у г/п Шаркоўшчына. Т.: 8-029-890-82-19

Хлеў, у выдатным стане, кошт па дамове, сячкарню. Тэл. 8-033 370-97-60

Кватэру 2-пакаёвую ў р-не Міра. Т.: 355-89-68(мтс)****

Дом, вул. Леніна, 86, Глыбокае, кошт па дамове. Т.: 8-029-593-05-07

## Куплю:

Куплю непадалёк ад Глыбокага дом (у любым стане) з вялікім зямельным участкам. Т.: 715-93-53**

## Здам:

Здам у арэнду м-н «Бегемот», вул. Леніна, 87, гандлёвая плошчы на другім паверсе. Т.: 8-029-757-37-70, 8-029-714-00-74 (мтс)+

2-пакаёвую кватэру ў Паставах. Т.: 8029-514-80-03

Здам у арэнду гандлёва-адміністратыўнае памяшканне 40-80$м^2$ (першы паверх), вул. Леніна, 16. Т.: 211-27-29(мтс)

* ЗАЎВАГА: калі ў абвестцы не пазначаны код горада, уладальнік тэлефоннага нумару знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне.

Здам кватэру ў Навапалацку. Т.: 8-029-599-11-07(мтс)**

Здаем у арэнду памяшканне пад кафетэрый і магазіны, вул. Леніна, 1. Т.: 8-029-826-50-22*

Здам 2-пакаёвую кватэру. Тэл. 8-033-359-80-34

Здам кватэру ў Глыбокім.Т.:891-36-21(мтс)

**Здыму:**

Здыму кватэру ў г.Глыбокае. Тэл. 8-029-292-64-97

**Мэбля, посуд, дываны на продаж:**

Кухню новую. Пасв. №391050456 Т:8029-892-87-21(мтс)+

Кухні. Распродаж астаткаў Нядорага. Магчымы продаж у доўг або крэдыт. Бясплатная дастаўка, выбар варыянтаў і колераў. УНП 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т:8029-286-65-32(мтс), 8029-892-87-21 (мтс)+

Вуглавую канапу + крэсла. Т.: 8-029-516-50-67(мтс)

2 ложкі і шафу са спальні «Медуніца». Ложкі 1-спальныя (2шт.) з матрацамі, 0,90х2,0см. Шафу 4-створчатую без люстэрка, вышыня 2,32, шырыня 1,78, глыбіня 58см.Т.:8033-337-20-90

**Прадам катлы, сантэх-абсталяванне:**

Кацёл ацяпляльны для гаража, склада, цяпліцы на адпрацаваным масле. УНН391054834. Т.:8029-892-87-21 (мтс), 8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл у лазню, 570 руб (5,7млн.руб). Т.: 8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв. 391050456. Т.: 8029-286-65-32(мтс)+

Катлы ацяплення, новыя, «Камфорты», «Люксы», нядорага. Магчымы продаж у доўг або крэдыт. КСТ-12,5, «Камфорт-Плюс» на дровах, апілках, брыкеце. Продаж астаткаў катлоў. Бойлеры. Дастаўка. УНН 391054834 . Тэлефон гарачай лініі 8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21(мтс), 8-029-714-00-74(мтс)+

Кацёл у лазню. Т.: 371-78-14(мтс)

**Прадам будматэрыялы:**

Кабінкі душавыя, боксы, **распродаж** астаткаў, нядорага. УНН391053348. М-н «Бегемот», вул. Леніна, 87+

Ванна акрылавая таўстасценная, нядорага. УНН391054834. Т.:8-029-892-87-21(мтс)+

Блокі сілікатныя, 95руб\куб. УНН391054834. Т.: 8029-28665-32(мтс), 8-029-892-87-21+

Ламінат, продаж астаткаў, ліквідаванне склада, нядорага. УНН391054834. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Дзверы ўваходныя (дрэва з пластыкам) 2,1х0,9м; дзверы ПВХ балконныя 2,37х0,84м + акно ПВХ неадкрыўное 1,5х0,82м; дзверы міжпакаёвыя драўляныя (Пастаўскія) са шклом 70-ка з каробкай і фурнітурай; дзверы (палатно) 80-ка (Пастаўскія). Усё новае. УНН391054834. Т.: 8029-286-65-32 (мтс)+

Сушылка для ручнікоў з нержавейкі, новая. УНН391054834. Т.: 8029-286-65-32 (мтс)+

Супрацьмарозная дабаўка ў цэмент (сухая). УНН391054834. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

**Куплю будматэрыялы:**

Цэмент у мяшках. Т.:8-029-892-87-21 (мтс), 8-029-286-65-32 (мтс)+

Бетонамяшалку. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Шыфер б\у. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Таўру, двутаўру. Т.:8029-714-00-74 (мтс)+

Метал ліставы, паласу, трубу 1200мм, дыяметр, таўшчыня ад 4 мм.Т.: 8-029-598-28-52 (мтс), 710-97-63*

**Прадам тэлефоны:**

Аксэсуары для мабільных тэлефонаў: чахлы, акумулятары, зарадкі. УНП 300594330. Т.: 813-99-99+

Айфон 5, белы, 16Гб, добры стан, 300 руб. Т.: 8-033-365-09-00

Айфон 5S, 16Гб, ідэальны стан, поўны камплект, 500 руб. Т.: 8-033-365-09-00

**Бытавая тэхніка і газавае абсталяванне на продаж:**

Бойлер «Арыстон» на 30л, новы. Катлы ацяпляльныя на дровах.УНН 391054834.. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Бойлеры для гарачай вады на 80л, да любых катлоў на ц\паліве і да любой сістэмы ацяплення. УНН391054834. Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Параачысціцель «KarcherSC 3.000», новы, прафесійны, для інтэнсіўнай чысткі дываноў, канапаў, салонаў аўто, кафеля, газавых пліт, сантэхнікі, 3,4 млн.руб. Т.: 8029-286-65-32 (мтс)+

**Ноўтбук**, 200руб (патрэбна замена акумулятара). **Прынтар**, 50руб, у рабочым выдатным стане. Т.: 813-99-99+

**Прынтар, ксеракс. Т.: 517-46-14(мтс)+**

Швейную машынку «Чайка», новую. Т.: 8-033-337-20-90

Тэлевізар «Гарызонт» б\у, у добрым стане. Т.: 8-033-646-65-17

Халадзільнік б\у. Т.: +37533-613-71-98(мтс)

Пральную машыну бытавую СМ-25 «Мара», новая, ва ўпакоўцы, 100руб., торг.Т.:8029-593-05-07

**Прадам еміну:**

**Бульбу дробную і вялікую, з дастаўкай. Т.: 514-21-76 (мтс)+9**

За добрым настроем і зарадкай дадатнай энергіяй, запрашаем у магазін разліўнога піва: г.Глыбокае, вул. Дзяржынскага, 3 (ДАСААФ). **ПІВА** бачкавое, жывое на разліў, нядорага. УНН391054834. Т.: 8-029-745-00-74 (мтс)(з 10.00 да 22.00)+

Яблыкі дамашнія, нядорага. Буракі кармавыя. Т.: 3-03-81, 291-40-36(мтс)

Паўтушы жыўнасці. Т.: 8-029-599-90-52(мтс)

Жыўнасць на мяса. Т.: 8-029-210-51-35

Жыўнасць мясам. Т.: 8-044-701-67-75(в), 2-29-82 (Пастаўскі р-н)

Паўтушы жыўнасці. Тэл. 8-029-836-72-38

Жыўнасць на мяса, 80-100 кг. Тэл. 8-029-219-58-55

Тушу жыўнасці. Тэл. 8-029-701-81-73

**Куплю еміну:**

Дохлю скаціны. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Мяса БРЖ і маладняк. Дорага. Т.: 8-029-719-05-79+2

Галаву, ногі, печань, сэрда ад дамашняй жыўнасці. Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Сала свежае (не марожанае, не в'етнамскае). Т.: 8-033-342-83-79 (мтс)

**Прадам жывёлу, рыбак:**

**Шчанят ад нямецкай аўчаркі. Т: 8033-686-50-39+10**

Жыўнасць в'етнамскую і тушу на мяса(ландрас).Т.: +37529-808-97-01 (мтс)*

Жыўнасць в'етнамскую Т.: 517-62-61(мтс)

Цялушку. Т.: 4-15-21, 8-029-813-33-65

Пеўнікаў. Т.: 3-98-12

Жыўнасць. Шаркоўшчына. Т. 8-029-821-94-58, 8-02154-4-72-46

Індакачак на племя. Тэл. 8-029 357-48-42

Бычка, 1 месяц. Тэл. 8-02154 3-81-58, 8-029 890-22-24

В'етнамскую жыўнасць, 3 месяцы. Тэл. 3-35-78, 8-033-646-08-56

Жыўнасць белую рознага памеру і росту. Т.: 3-29-40

**Куплю жывёлу:**

Малочнае цяля, быка. Т.: 8-029-841-03-75+9

Куплю карову, быка, цяля. Тэл. 8-029-582-26-05, 8-029-159-26-42

Куплю карову, быка, каня. Т. 8029-257-18-59

Куплю карову, быка, каня. Т.8-029-842-85-71

Куплю быка, карову, цяля, а таксама вымушаны зарэз. Тэл. 8-029 586-63-80

**Аддам:**

Аддам у добрыя рукі кацяня ў прыватны дом, прыгожы, дагледжаны. Т.:8-029-516-50-09(мтс)

**Прадам пчол і абсталяванне:**

Навучу пчалярству бясплатна, перадам вопыт. Магу прадаць вуллі, медагонку, рамкі, вашчыну і іншы інвентар. Актыватар вады для павелічэння вытворчасці пчол. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

**Прадам адзенне, абутак:**

Вайлакі бітыя на гумавай падошве. Т.:8-029-819-37-52(мтс)

**Куплю сельгасінвентар:**

Плугі супрацькаменныя або запчасткі да іх (адвалы, лемяхі, далоты). Т.:8-033-679-10-90(мтс)

**Прадам паліва:**

**Прычэп дроў (альха-бяроза) з дастаўкай. Т.:514-21-76 (мтс)+9**

Дровы, абрэзкі, аўтамабіль ЗІЛ, прывязу. Кацёл ацяпляльны на дровах. УНН391054834. Т: 8-029-286-65-32 (мтс)+

**Прадам збожжа:**

Пшаніцу. Тэл. 8-033-336-76-02, 8-033-336-76-01

Зерне, пшаніцу. Т.: 3-29-40

**Прадам сена:**

Сена ў рулонах. Т.: 3-29-40

**Прадам тавары для здароўя:**

**Бабровую струю** - эфектыўна ўзнаўляе патэнцыю, амалажвае,-садзейнічае пахудзенню Т: 8-029-286-65-32 (мтс)+

**Жывая і мёртвая вада** вылечвае многія хваробы. Аб карысці жывой і мёртвай вады самастойна знаёмцеся ў інтэрнэце. па пытаннях заказу і пакупкі прыбора для вытворчасці жывой і мёртвай вады тэлефануйце 8-029-892-87-21(мтс)+ у падарунак кніга «Лячэнне жывой і мёртвай вадой» Г.Д. Лысенка. Вытв. РБ. Ліцэнзія. Афіцыйны сертыфікат МінРБ.УНН391054834. Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

Канькі хакейныя, п-р 44. Т.: 511-94-11(мтс)

**Куплю калекцыі:**

Фарфоравыя статуэткі часоў СССР, ГДР, узнагароды, манеты, калекцыі. Дорага. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т: 8029-286-65-32 (мтс)+

Куплю старыя манеты, значкі, радыёпрыёмнікі, званкі, фарфоравыя фігуркі, партсігары. Тэл. 8-029-510-43-80, 2-94-40

**Іншае:**

Прапішу чалавека, магчыма з наступным пражываннем, Глыбокае.Т. 8-029-714-24-85

**Здам:**

Здам будаўнічыя рыштаванні (леса) ў арэнду (6х6), 20руб. \1 дзень, ад 3 сутак. УНН391054834. Т:8029-286-65-32(мтс)+

**Прадам эл\абсталяванне:**

Кампрэсар прафесійны на 380В, 4,7млн.руб. Т:8029-892-87-21 (мтс)+

Трохфазны эл\рухавік. Т:8029-892-87-21(мтс)+

Апарат зварачны генератарнага тыпу (прывад ад эл\рухавіка) 380В, 470руб. (4,7млн. руб).
Т.: 8029-120-82-52(в)+

Зернедрабілку 3-фазную 5,5кВт.
Т.: 8-029-594-86-63 (мтс)

## Прадам іншае:

Жорны (каменне) для ўпрыгожання двароў, фундаментаў. УНН391054834
Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

Кухню новую. Пасв. №391050456 ад 07.03.2008г.
Т.:8029-892-87-21 (мтс)+

Ламінат, продаж астаткаў, ліквідаванне склада, нядорага. УНН391054834.
Т:8029-286-65-32 (мтс)+

Бочкі з-пад аўтамабільнага масла на 200л, распродаж, 25 бел.-руб. УНН391054834.
Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

Кацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв.№391050456 ад 07.03.2008г.
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл ацяпляльны, новы.
Т.: 8029-286-65-32(мтс), 8029-892-87-21(мтс)+

За добрым настроем і зарадкай дадатнай энергіяй, запрашаем у магазін разліўнога піва: г.Глыбокае, вул. Дзяржынская, 3 (ДАСААФ). **ПІВА** бачкавое, жывое на разліў, нядорага. УНН391054834.
Т.: 8-029-745-00-74 (мтс) (з 10.00 да 22.00)+

Распродаж нядорага: бочкі (бутлі) пластыкавыя на 30л для дамашніх віназдзелаў, пітной вады, для спіртных напояў, вады ў лазню, пчалаводам для захоўвання мёду, для парнікоў і іншых гаспадарчых патрэб. УНН391054834.
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Ёмістасць пад каналізацыю, магчыма дастаўка і ўстаноўка.
Т.: 595-48-68

## Куплю іншае:

Бочку 6-8 кубоў, пад каналізацыю.
Т:8029-286-65-32(мтс)+

Таўру, двутаўру.
Т.:8029-714-00-74 (мтс)+

## Пасажырскія перавозкі:

Заказныя пасажырскія перавозкі, семінары, вяселлі, экскурсіі. Камфартабельны аўтобус 8-15 месц, наяўны і безнаяўны разлік.
ІП Шабан .В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад 16.12. 2012 да 16.12.2022г.
Т.:8033-646-21-99 (МТС), 8-0291902199(В)+9

Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр. ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад16.12. 2012 да 16.12.2022г.
Т.:8033-646-21-99 (МТС),8029-190-21-99 (В)+9

## Грузаперавозкі:

Грузаперавозкі па РБ: МАЗ, тэнт 40 кубоў, 10т. УНН 391054834 выд. г Глыбоцкім РВК.
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

МАЗ з адкрытым паўпрычэпам, 13,5м, 20т. УНН 391054834, выд. Глыбоцкім РВК.
Т: 8-029-286-65-32 (мтс)+

УРАЛ-лесавоз з маніпулятарам. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Перавозкі грузаў папутна з Глыбокага ў Мінск, з Мінска ў Глыбокае, любой вагі і аб'ёму (ад 1кг да 20т), а таксама любыя іншыя напрамкі. УНН 391054834.
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Грузаперавозкі. Кранманіпулятар 13т. Самазвал 10т (пясок, гравій). Лесавоз (лес, піламатэрыялы). УНН391530222.
Т.: 8-033-360-75-98

## Паслугі:

Паслугі экскаватара-пагрузчыка, усе віды земляных работ, траншэі, сажалкі і інш. Наяўны і безнаяўны разлік. Уборка снега. УНН 391531670.
Т.: 714-44-99(мтс)+2

Адкачаю каналізацыю. УНП 390271248.
Т.: 8-029-713-36-35+4

Паслугі прычэпа: вываз будаўнічага смецця, прывязу гравій, пясок і многае іншае. УНП 390271248.
Т.: 8-029-713-36-35+4

Адкрылася новая аўтамыйка, вул. Энгельса, 41. УНП391536843. Т.: 8033-370-80-00 (мтс)+6

Дапамога ў пакупцы аўтамабіля ў Беларусі, Расіі, Літве. Праверка электронным таўшчынеметрам: біты\не біты, фарбаваны\не фарбаваны\падфарбаваны. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-120-82-52(в)+

Паслугі па рубцы зрубаў.УНН391054834.
Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

Кваліфікаваны спецыяліст выканае: рамонт, замена і ўстаноўка сантэхабсталявання; зборка, устаноўка душавых кабінак і інш.; мантаж ацяплення, вадаправода і каналізацыі. Рамонт, падключэнне і ўстаноўка эл\абсталявання. Пластык, ламінат і інш. Хутка і якасна! УНП 391532784, ІП Сауліч В.В.
Т:+37529-218-38-66 (мтс)+7

Паслугі электрыка. УНП 391532784.
Т.:+37529-218-38-66 (мтс)+7

**Паслуга «Дамашні майстар» (100 работ па дому і офісу). Эл\мантажныя работы**: мантаж, замена і выяўленне няспраўнасцяў эл\праводкі, свяцільнікаў, разетак, выключальнікаў, УЗО, эл\званкоў, бра і інш. Замена лічыльнікаў эл\энергіі. **Сантэхнічныя работы**: зборка і ўстаноўка душавых кабін, унітазаў, умывальнікаў, ваннаў. Урэзка кухонных мыек, мантаж трубапрavadаў ацяплення, халоднай і гарачай вады. **Устаноўка і мантаж бытавой тэхнікі. Зборка і рамонт мэблі**: навешванне карнізаў, жалюзі, карцін, кранштэйнаў пад тэлевізар і інш. Дапамога ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. УНН 391530077 ад 18.12.2014г.
Т.: 8-029-816-03-64, 8-029-379-77-94***

Рэстаўрацыя ваннаў, эмаль, колер на выбар. УНП 391240879 ІП Пазняк Н.Н.
Т.: 8-033-306-29-89, 802156-5-38-59 Глыбокае***

Акажу будаўнічыя паслугі: мантаж сцен, паталкоў з ГКП, ПВХ, МДФ, штукатурна-малярныя работы, сталярныя работы, аддзелка мансард, лесвіцы, эл\каміны, лазні пад ключ, сантэхнічныя і многія іншыя работы. УНП391534031.
Т.: 816-06-74(мтс)

Рамонт грузавых аўтамабіляў, прадастаўленне рамонтных месц. Такарныя, слясарныя, зварачныя работы. УНП390477474. Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Бур і К», Г. Глыбокае, вул. Чыгуначная, 14.
Т.: 8-029-595-30-75+12

Будаўнічыя работы, устройства перагародак, сцяжак, укладка пліткі, штукатурка, устройства паталкоў, дахаў. Зрубім зруб і многа іншага-.УНП391534600.
Т.: 849-72-62(мтс)

**Абвал цэн! Помнікі. Устаноўка, укладка пліткі, бардзюраў. Рамонт нахіліўшыхся помнікаў. УНП391052382 выд. 13.03.2009г. Глыбоцкім РВК.**
**Т.: 8-029-515-32-56**

Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў на даму. Гарантыя, якасць, кансультацыя. УНП391072281.
Т.: 8-033-601-36-06 (мтс), 8-029-250-64-34(в)****

## Шукаю працу:

Устанаўлю адкосы любой складанасці. Дастаўка матэрыялаў. Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душавую кабіну, бязбашанку, ПВХ, ламінат, плітка, дзверы, сантэхніка, электрыка. Дастаўка матэрыялаў, дапамога ў выбары.Устанаўлю, адрамантую дах: шыфер, андулін. Без шкодных звычак.
Т.: 595-48-68+22

Масаж дарослы і дзіцячы, антыцэлюлітны масаж. Масаж пасля траўмаў і інсультаў. Медадукацыя і вопыт маю.
Т.: 8-029-717-69-38

Маладая дзяўчына шукае працу. Вышэйшая адукацыя. Досвед працы прадаўца.
Тэл.: 235-54-48

Парэжам і пасячом дровы.
Тэл. 2-86-58 (пасля 18.00)

## Прапаную працу:

Патрабуецца рабочы на дзялянку ў лесе, 1 гадзіна + 1 рубель.
Т.:8-029-892-87-21(мтс)+

Патрабуецца на пастаянную работу рабочы на будоўлю. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т: 8029-286-65-32(мтс)+

Патрабуецца жанчына рознарабочая. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т:8-029-286-65-32 (мтс)+

Патрабуецца майстар (спецыяліст) для ўстаноўкі страпільнай сістэмы на даху. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-714-00-74 (мтс)+

Патрабуецца рознарабочы, аплата пачасавая, 70 кап.\гадзіна.
Т.: 8-033-363-94-37+

УПП «Дзімір-Транс» патрабуецца вадзіцель-міжнароднік па СНГ, сацпакет, дастойная аплата працы. УНП391052752.
Т.: 8-029-638-84-68(в)*

Плітачнік-абліцоўшчык (майстар для ўкладкі пліткі абліцовачнай у ваннах і туалетах) УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Дзяўчына, не старэй 35 год, для працы ў магазіне (улік тавараў, рэвізій). УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т: 8029-286-65-32 (мтс)+

Патрабуецца вадзіцель кат. Е, на рэфрыжэратар. Праца РБ-РФ, сацпакет.
Т: 8033-305-19-05

У магазін «Лагуна», вул. Энгельса, патрабуецца прадавец. Поўны сацпакет. Добрая аплата працы. Зручны графік работы. Звяртацца ў магазін «Лагуна», вул. Энгельса, 18.
Т.: 8-029-515-52-04, 8-029-512-82-23

Патрабуецца спецыяліст па ўстаноўцы акон і дзвярэй, з вопытам работы, без шкодных звычак.
Т.: 8-029-716-46-47

Патрабуецца аператар з веданнем праграмы 1С. Т.:8-044-719-79-63*

Патрабуецца парыкмахер.Т.:8029-297-77-95**

Патрабуецца бухгалтар з вопытам работы.
Т.: 8-029-518-67-56

## Згуба

Згублены кашалёк карычневага колеру, разам з вадзіцельскім пасведчаннем на імя Новік В.В. і грашыма. Просьба вярнуць за ўзнагароду.
Тэл.: 596-65-01 (мтс)

Прапаў сабака, нямецкая аўчарка, па прозвішчу «Рэкс». Калі хто бачыў, калі ласка, патэлефануйце.
Т.: 8-033-308-52-82

Знік лабрадор палевы (руды), 4 студзеня, вул. Савецкая, 100. Узнагарода. Т.8029-518-68-30

## Андрэй Кабякоў пабываў у Глыбоцкім раёне

■ Станіслаў Раманчук.

**Кіраўнік беларускага ўрада наведаў ААТ «Глыбоцкі мясакамбінат» для інспектавання вынікаў указу Лукашэнкі №320 «Аб развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці ў Віцебскай вобласці», акрамя таго ён азнаёміўся з работай ААТ «Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат» і вытворча-камерцыйнай фірмы «Аржаніца».**

«На прыкладзе мясакамбіната і малочна-кансервавага завода ацэньваем, як прымяненне указаў паўплывала на эканамічны стан прадпрыемстваў, на іх здольнасць забяспечыць своечасовыя разлікі з прадпрыемствамі сыравіннай зоны, якія перспектывы іх удзелу ў развіцці гэтых сыравінных зон», - сказаў журналістам прэм'ер, адзначаючы, што такія паездкі пераважна звязаныя з ацэнкай вынікаў выканання указаў, накіраваных на аздараўленне фінансава-эканамічнага стану прадпрыемстваў АПК. Віцебская вобласць адной з першых трапіла пад дзеянне такога ўказа, тут ужо створаны аграхолдынгі, і можна падвесці першыя вынікі.

«Першапачатковы этап паказаў, што рэалізацыя гэтых дакументаў дае станоўчы эфект, - падкрэсліў Кабякоў. - Калі раней гаворка ішла пра тое, каб проста забяспечыць бягучую дзейнасць прадпрыемстваў, то сёння ўжо размова пра іншае. Фармуюцца пункту канцэнтрацыі прыбытку, і мы абмяркоўваем, як за кошт гэтага прыбытку аказваць ўздзеянне на сыравінныя зоны, уплываць на развіццё сельгаспрадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў няпростай сітуацыі. У гэтых сельгасвытворцаў з'яўляецца рэальная перспектыва ўступіць на шлях аздараўлення на добрай эканамічнай аснове, без якога-небудзь фінансавання, не звязанага з вынікамі дзейнасці».

«У нас у краіне забяспечваецца макраэканамічная стабілізацыя, інфляцыйныя працэсы згасаюць, працэнтныя стаўкі па крэдытах, хоць і павальней, чым нам хацелася б, але зніжаюцца. У гэтых умовах мы знаходзім спосабы ўздзеяння на паляпшэнне фінансавага стану прадпрыемстваў. І гэта ўсё ў сукупнасці дасць здаровы эканамічны рост без якіх-небудзь ваганняў у горшы бок», - прыводзяцца словы прэм'ер-міністра на сайце ўрада.

Акрамя таго, у ходзе рабочай паездкі Андрэй Кабякоў наведаў філіял ЗАТ «Трэст Прамбуд» «Санаторна-курортны комплекс» «Пліса», дзе азнаёміўся з вынікамі яго будаўніцтва і перспектывамі развіцця.

Як паведамлялі «Народныя навіны Віцебска», акрамя згаданага вышэй указу Лукашэнкі быў падпісаны ўказ «Аб мерах па фінансавым аздараўленні сельскагаспадарчых арганізацый». Згодна з пастановай урада ў ходзе яго рэалізацыі 15 сельгаспрадпрыемстваў Віцебскай вобласці стануць банкрутамі, а яшчэ 87 прадпрыемстваў павінны падвергнуцца дасудоваму аздараўленню.



## Маладыя педагогі будуць атрымліваць даплаты ад дзяржавы яшчэ год пасля адпрацоўкі




nn.by

**Маладым спецыялістам з катэгорыі педагагічных работнікаў, якія ўжо адпрацавалі па размеркаванні два гады, але працягваюць працаваць у дадзенай установе адукацыі, яшчэ на год працягваецца выплата даплаты ў памеры адной тарыфнай стаўкі першага разраду, паведамляе БЕЛТА.**

Новая пастанова ўносіць змены ў пастанову Савета Міністраў ад 26 студзеня 2009 года №86.

Так, педагагічным работнікам з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, якія адпрацавалі два гады па размеркаванні (перапразмеркаванні), накіраванні (наступным накіраванні) на працу ва ўстановы адукацыі і якія працягваюць працаваць на ўмовах заключаных працоўных дамоваў (кантрактаў), устанаўліваюцца штомесячныя даплаты ў памеры адной тарыфнай стаўкі першага разраду, устаноўленай Саветам Міністраў для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый, на працягу наступнага аднаго года.

Штомесячныя даплаты выплачваюцца па асноўным месцы працы прапарцыйна адпрацаванаму часу (аб'ёму выкананых работ), але не вышэй за памер адной тарыфнай стаўкі першага разраду, устаноўленай Саветам Міністраў.

Як растлумачылі ў прэс-цэнтры Міністэрства адукацыі, такая мера дасць магчымасць замацаваць маладых спецыялістаў ва ўстановах адукацыі і не дапусціць зніжэння іх зарплаты. Пастанова ўступае ў сілу з 1 студзеня 2017 года.

## Мінпрацы вызначылася, колькі будуць даплочваць бюджэтнікам

■ nn.by

**Міністэрства працы і сацыяльнай абароны вызначылася, колькі будуць даплочваць бюджэтнікам кожны месяц. Устаноўлены канкрэтныя памеры надбавак у залежнасці ад разраду. Аб гэтым паведамляецца на сайце ведамства.**

Даплаты будуць дзейнічаць з 1 студзеня 2017 года. Памеры іх наступныя:

з 1-га да 6-га разраду — 8 рублёў 60 капеек; з 6-га да 10-га разраду — 8 рублёў; з 10-га да 12-га разраду — 7 рублёў 50 капеек; з 12-га да 13-га разраду — 7 рублёў; з 13-га да 14 разраду — 6 рублёў 50 капеек; па 14-му разраду — 5 рублёў 70 капеек.

«Штомесячныя дыферэнцыраваныя даплаты не ўтвараюць стаўку (аклад) і не ўлічваюцца пры вылічэнні прэмій, надбавак і іншых выплат стымулюючага і кампенсавальнага характару», — удакладняюць у Мінпрацы.

З 1 студзеня ў Беларусі вырасла тарыфная стаўка першага разраду. Цяпер яна складае 31 рубель. Ад яе, як вядома, залежаць аклады бюджэтнікаў. Услед за стаўкай мяняюцца і даплаты.

## Стаў вядомы план па кампенсацыі беларусамі выдаткаў на паслугі ЖКГ і транспарту

■ Алена Фаменка

**З 1 лютага ў Беларусі павялічваецца памер дапамогі па доглядзе за дзіцём да трох гадоў: на 1,12 рубля на першае дзіця, на 1,28 - на другога і наступных дзяцей.**

Інфармацыя прадстаўлена Міністэрствам па працы і сацыяльнай абароне Беларусі. Пераразлік будзе праведзены з улікам паказчыка сярэднямесячнай заработнай платы за 4-ы квартал 2016 года. Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» усталёўвае, што дапамога на першае дзіця да трох гадоў складае 35% сярэднямесячнай заработнай платы, і 40% - на другога і наступных дзяцей. А так як гэты паказчык у мінулым квартале павысіўся, то, адпаведна, падвышаецца і памер дапамогі. На перыяд з 1 лютага па 30 красавіка 2017 года 261,38 рубля будуць атрымліваць мамы, якія выхоўваюць першага дзіцяці, 298,72 рубля - тыя, у каго дзіця да 3-х гадоў другі або наступны ў сям'і. Нагадаем, што яшчэ ў снежні 2016 года Мінпрацы прапанавала перагледзець памер дзіцячай дапамогі не раз у квартал, а раз у год. Хоць крытыка такога новаўвядзення і была раскрытыкаваная многімі, у першым чытанні дэпутаты папраўкі ўхвалілі.

